BULK RATE
US POSTAGE
PAID
Grand Rapids, MI
Permit No. 1141



# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 4(52) Май 1998 May Год выд. 6.

## Свабоду беларускім патрыётам — вязьням Лукашэнкаўскага рэжыму! Ганьба чужынцам-прахадзімцам, якія сёньня кіруюць Беларусьсю і зьнішчаюць усё беларускае і эўрапейскае...



**Спадар Міхась ЛУЖЫНСКІ — ведамы грамадзка-культурны і палітычны дзеяч, рэдактар беларускага радыё ў Сыднэі (Аўстралія), сябра Рады БНР і вялікі патрыёт беларускага народу.**

**Дарагі Спадар Міхась! Вітаем Вас на старонках нашае незалежнае газэты.**




## ПРЭЗЫДЭНТ ПАСЫЛАЕ КРАІНУ Ў МІНУЛАЕ

### Што мы будуем?

«НАВІНЫ»

Аказваецца, не проста *«унітарную дэмакратычную сацыяльную прававую дзяржаву»*, але яшчэ і краіну з вялікімі, нягледзячы на сціплыя памеры, амбіцыямі. *«Галоўнай мэтай выпрацаванага кіраўніцтвам краіны і паслядоўна рэалізуемага дзяржаўнага курсу Рэспублікі Беларусь з'яўляецца забеспячэнне магутнасці нашай Радзімы»*, — абвесціў Лукашэнка ў стылі часоў развітога «застою». У адпаведным тоне была вытрыманая амаль уся прамова. Было відаць, што прэзідэнт адчуў сябе на вяршыні магутнасці і славы. Ёсць поспехі, якія ён можа паставіць сабе ў заслугу. Значыць, трэба запэўніць усіх у тым, што абраны шлях — правільны.

Павялічыўся аб'ём вытворчасці. Выраслі заробкі. Падняліся пенсіі. Больш стала інвестыцыяў. Менш беспрацоўных. Будуюцца дамы. Праводзяцца святы яднання і фестывалі сяброўства. *«Мы будуем грамадства, якое гарантуе і надзейна абараняе правы і свабоды асобы, нацыянальнае і рэлігійнае раўнапраўе, дзе пануе закон і падтрымліваецца надзейны правапарадак»*. Адной гэтай фразы інфармаванаму чалавеку дастаткова, каб ацаніць ступень аб'ектыўнасці ўсёй прамовы. Але тым не менш прэзідэнт прапануе праграму, разлічаную ажно да 2015 года.

### Працаваць трэба!

Усяму галава — эканоміка, раз за разам паўтарае прэзідэнт. І тлумачыць канкрэтна: *«Мы ідзем ад эканомікі з выключна дзяржаўнай маёмасцю да шматукладнай»*. Але факты сведчаць, што апошнім часам дзяржава, наадварот, пачала выразна змагацца з шматукладнасцю. Як іначай расцаніць фактычную манапалізацыю знешняга гандлю? Прыпыненне прыватызацыі, штучнае стрыманне цэнаў, кіраванне курсам рубля з дапамогай загадаў? Няўжо сапраўды «перабольшыла небяспеку» місія МВФ, якая прыпыніла супрацоўніцтва з Беларуссю менавіта з прычыны антырынкавага курсу? Ніякіх адказаў на гэтыя відавочныя супярэчнасці ў прамове прэзідэнта не было. Нам не трэба *«бязмозглых рэформаў»* — вось і ўвесь адказ усім, хто сумняваецца.

З прэзідэнцкага паслання вынікае, што стыль кіравання эканомікай не толькі не будзе лібералізаваны, але стане яшчэ больш жорсткім. Цэны *«па-ранейшаму будуць рэгулявацца»*. На газ, нафту, транспарт, сувязь, жыллё, асноўныя тавары і паслугі. Канечне, насельніцтва, асабліва людзі з малымі даходамі, будуць такія заявы толькі вітаць. Але для вытворцаў, як дзяржаўных, так і прыватных, даўно відавочная бесперспектыўнасць такой палітыкі. Дэфіцыт некаторых прадуктаў харчавання ў беларускіх крамах і нават на рынках, як вынік «рэгулявання», ужо становіцца рэальнасцю.

### На нас ідуць «сурагаты»

Сацыялізм як лад жыцця адрозніваўся не толькі спецыфічнай эканомікай, але і асаблівай мараллю, асаблівымі адносінамі з усім светам. Як вынікае з прэзідэнцкай прамовы, вяртанне да гэтых асаблівасцяў нам таксама гарантаванае.

*«Трэба абмежаваць уплыў псеўдакультурных сурагатаў, усталяваць бясспрэчны прыярытэт нацыянальнай беларускай культуры над заходняй масавай культурай»* — ставіць задачу А.Лукашэнка. Пры гэтым адзначым: ва ўсёй двухгадзіннай прамове прэзідэнта прагучала толькі адно слова па-беларуску (ён узгадаў, што беларускі народ *«памяркоўны»*). Дык ці варта чакаць плёну ад такога *«прыярытэту нацыянальнай культуры»*?

А пакуль прыярытэтнай становіцца барацьба з ідэямі дэмакратыі. Разгортваецца контрпрапаганда ў стылі брэжнеўскіх часоў: *«Заходнія дзяржавы трацяць вялікія грошы, каб праводзіць лінію апазіцыі на тэрыторыі нашай дзяржавы... Цалкам распісваецца, колькі, куды і каму»*, — упэўнена гаворыць прэзідэнт з трыбуны парламенцкага сходу.

У выкрыцці як унутраных, так і знешніх ворагаў у Лукашэнкі сапраўды *«бясспрэчны прыярытэт»*. Як раней у ЦК КПСС.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Улады знішчаюць краіну?

«ПАГОНЯ»

**Важнай тэмай абмеркавання на мінулым Сойме БНФ стала пытанне суадносінаў паміж палітычнай і асветніцкай дзейнасцю гэтай грамадскай арганізацыі.**

Як адзначыў выконваючы абавязкі старшыні Народнага фронту Лявон Баршчэўскі, выступаючы 14 красавіка на прэс-канферэнцыі па выніках сойму, у БНФ ідзе дыскусія наконт суадносінаў паміж палітычнай і асветніцкай дзейнасцю арганізацыі, паколькі Народны фронт — гэта шырокі рух, які займаецца не толькі палітыкай. У сучасных умовах неабходна актывізаваць сваю дзейнасць у абодвух гэтых накірунках, падкрэсліў Баршчэўскі. Ён адзначыў, што гэта асабліва важна ва ўмовах, калі культура, адукацыя, большасць грамадскіх арганізацый, звязаныя з прапагандай і падтрымкай нацыянальнай ідэі, перажываюць не лепшыя часы. «Абураюць шматлікія дзеянні ўладаў, — сказаў Л.Баршчэўскі. — Напрыклад, калі фактычна канфіскуецца памяшканне Таварыства беларускай мовы, калі ствараюцца штучныя перашкоды ў дзейнасці Таварыства беларускай школы».

Намеснік старшыні БНФ Вінцук Вячорка падверг рэзкай крытыцы ўнесеныя Палатай прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу змяненні ў Закон «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь». «У апошнія тры гады, —сказаў Вячорка, — адбываецца падаўленне беларускай мовы. І новы закон, цішком прыняты на мінулым тыдні гэтым псеўдапарламентам, — толькі новае звяно ў гэтым ланцугу». У заяве, прынятай соймам БНФ, гаворыцца, што працягваецца дзяржаўная лінія на ўдушэнне беларускай мовы і пераследа беларускамоўных грамадзян.

Зачыняюцца беларускамоўныя класы і групы ў дзіцячых садках, беларуская мова выкараняецца з універсітэтаў і СМІ, гандлю, дзяржаўных установ. «Канчатковая мэта гэтай стратэгіі, — гаворыцца ў заяве, — знішчэнне нашай краіны і інкарпарацыя Беларусі ў абноўленую расійскую імперыю».

**Генадзь Барбарыч**








**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# Old Jokes about Main Things...



The President of Congo has one hundred mistresses. One of them has AIDS. They are trying to find out who it is.

The President of the USA has one hundred Security Counsellors. One of them is a KGB agent. They are trying to find out who it is.

The President of Belarus has one hundred Trade Counsellors. One of them knows economics. They are trying to find out who it is.

Lukashenko got scared that somebody would make an attempt on his life or at least poison him. In order to avoid this he called a star-gazer and asked him: "Say, when am I to die?"

"You will die before a great feast", as usually, very insinuatingly answered the star-gazer.

"Before which feast?" asked Lukashenko.

"Your death will be a great feast for all people..."

A guy, arrested on an authorised procession, was brought to a local militia office.

"What for he got arrested?"

"He is not in the same boat with us. One can see it from the first sight that he is an oppositionist..."

"Was he saying or shouting something?"

"No, he is deaf-and-dumb... But he was spitting with such an expression on his face!..."

What is the difference between democracy and dictatorship?

Democracy: people bring out publicly the unsatisfaction with their own president.

Dictatorship: people bring out publicly the unsatisfaction with a foreign president.

One of the militia officers that were dispelling an authorised gathering refused to beat demonstrators. Later he was asked — why?

"O'K, today I will bash his head, and tomorrow he will become a minister... And what am I to do then?..."

# Belarusian rouble artificially raised despite current crisis

*Minsk News*

**By Alexander VASILEVICH**

Two weeks ago, after the celebration of International Women's Day on March 8, the exchange rate of the Belarusian rouble (non-cash transactions) stood at 50,000 to 50,500 roubles for 1USD. But it was clear that the demand for Belarusian roubles which emerged on March 5 and 6 was ill-fated. During the week starting March 9, the market was flooded with cheap Belarusian roubles and on Thursday, March 12, the dollar hit a new record high - 59,500 to 60,500 roubles for 1USD.

Late the same day, President Lukashenka promised to "study the situation and punish the culprits." On Friday, March 13, currency deals were rather chaotic with the exchange rate ranging from 55,000 to 60,000 roubles for 1USD. The same situation continued on March 16. However, during the following week the exchange rate of the dollar began to fall and reached 52,000 to 53,000 roubles for 1USD by Friday, March 20.

A similar situation was observed in the cash market of hard currency. In the "black market" the dollar reached 56,000 roubles for 1USD by March 12 and fell under 50,000 by March 20. At the same time, the fall of the dollar in the banks' exchange outlets was much more significant. In the peak period the dollar reached 54,000 roubles for 1USD and was lowered to 42,000 roubles for 1USD at President Lukashenka's order.

The reasons for the decrease in the value of the Belarusian currency are obvious. Belarus has a negative external trade balance and high inflation. The exchange rates are set by the authorities and the credit emission is at a high level. Furthermore, since the end of last year, state officials have repeatedly promised the printing of more money. Most of their promises have been supported by legal acts ranging from laws to presidential decrees.

The volume of Belarusian roubles in the market increased. The extension of loans for the agricultural sector (which were transferred to Russian and Baltic banks) resulted in a rapid growth of the market. According to independent experts, by the end of February, the amount of Belarusian roubles available in the market almost doubled.

Another factor contributing to the fall of the Belarusian currency was the exhaustion of the National Bank's hard currency reserves from over $80 million at the beginning of January to $17 million on February 1. According to an unofficial source, now the National Bank has no hard currency reserves and even had to borrow about $5 million. The rapid depletion of hard currency reserves made the National Bank of Belarus stop its transactions with the Belarusian rouble at the Moscow currency exchange in mid-February. However, the authorities stated other reasons such as the necessity to change the scheme of operating at the Moscow market, problems with Reuters system and even the illness of the main Belarusian currency dealer.

The market of the Belarusian rouble isn't very large. Therefore, the departure of one of the biggest operators which repeatedly supported the Belarusian currency had grave consequences. The hard conditions of Russia's financial system also resulted in Russian banks beginning to get rid of Belarusian roubles as unstable and unreliable financial resources.

According to Gennadz Aleinikau, Head of the Belarusian National Bank, a number of factors caused the decrease in the value of the Belarusian currency. Last year exports increased 26.4% but that wasn't enough to compensate for the emission of Belarusian roubles. At the beginning of this year, a seasonal decrease in business activities was reported which caused a decrease in exports. The growth in prices was fast (3.9% in January, 3.1% in February), the proportion of barter transaction increased and hard currency revenues of enterprises went down 22% in the first two months of the year. The amount of Belarusian roubles held outside of Belarus also increased.

Alexander Lukashenka acted in his usual way by looking for reasons for the fall of the Belarusian currency. He put the blame on internal and external enemies, in particular on hard currency speculators. On March 19, Secretary of the Belarusian Security Council, Viktar Sheiman, revealed their names - Kreditimpex bank and Moscomprivatbank of Moscow and Rietumu Banka of Riga. According to Sheiman, these three banks share 90% of the blame for the devaluation of the Belarusian rouble.

However, the Russian Central Bank dismissed all the allegations against Russian banks. Its department for public relations issued a statement saying that the doubling of cash in Belarus necessarily resulted in the fall of the Belarusian rouble and loss of confidence in it. Moreover, large Russian banks which held Belarus roubles incurred losses due to the decrease in the Belarusian rouble's value, so, looking for scapegoats in Russia "made no sense in economic terms." The Russian Central Bank believes that the real stabilization of the Belarusian rouble can be reached only if the state deficit isn't covered by money emission and the extension of privileged loans and a rigid financial policy will be pursued.

To overcome the crisis, the Belarusian authorities needed resources. On March 13, Belarusian Prime Minister Syargei Ling, Head of the National Bank, Gennadz Aleinikau, and Deputy Finance Minister Mikalai Rumas went to Moscow for negotiations with Head of the Russian Central Bank, Sergey Dubinin. But their attempts to obtain loans from the "big brother" or tie the Belarusian currency to the Russian rouble ended in a failure.

Upon their return , President Lukashenka demanded that a meeting of bankers be summoned to decide on the steps to return the exchange rate of the Belarusian rouble to the early March level. The Prime Minister and Chair of the State Control Committee were assigned to control the price setting so that the annual growth of prices does not exceed 2%. They were worried that a failure to do so may bring forth a major reshuffle in the government and the State Control Committee.

Therefore, the government made trade enterprises return to the March 1 prices. The authorities sent letters to all enterprises saying that heads of sate-run enterprises who fail to comply with the order will be dismissed and licenses of private enterprises will be revoked.

On Thursday, March 19, the Belarusian rouble wasn't traded at the Moscow currency exchange. The dealings were suspended at an initiative from the National Central Bank following the accusations from the Belarusian authorities aimed against Russian banks. The next day trading resumed at a request from Belarus' National Bank.

However, dealers believe that the recovery of the Belarusian rouble was not the result of the above developments. The Belarusian National Bank, despite the negative balance of its currency reserves, conducted interventions in the hard currency market. In addition, the market began to shrink during the uncertainty about the future of the Belarusian rouble. Most participants of the market are waiting. Buyers of Belarusian roubles are waiting for a new fall of the Belarusian currency, sellers hope that it will become stronger.

Despite the implementation of President Lukashenka's orders, scapegoats for the recent plunge of the Belarusian currency were found anyway. In accordance with the presidential decrees #149 and #151, issued on Friday, March 20, Head of the Belarusian National Bank, Gennadz Aleinikau, and his deputies, Pavel Kallaur, Vladimir Sidarau and Mikalai Kouzmich were dismissed. Vice Premier Piotr Prakapovich was appointed new Head of the National Bank.




# IMF leaving Belarus

People in many countries view the "IMF dictate" as the major reason for economic troubles. Belarus is now free from this dictate - free to the extent that the International Monetary Fund last week reduced the level of its representation in Belarus.

The IMF Minsk office issued a press release last Thursday saying that on July 1, 1998, the IMF senior permanent representative in Belarus, Richard Haas, leaves for Washington to assume other duties. As of July 1, 1998, the IMF senior permanent representative in Lithuania, Adalbert Knobl, will be in charge of Belarus as well. The permanent representative's assistant, Yulia Lyskova, will be in charge of technical issues in the Minsk office.

At a press conference a month ago, Mr. Haas stated that the Fund finds it too expensive to keep a permanent representative in the country whose economic policies the IMF doesn't support. There is another reason for the decision: highly-skilled professionals are urgently needed in the countries engulfed by the world financial crisis.

The IMF started its operation in Belarus on October 2, 1992. From 1992 to 1995, Belarus received two installments of the STF loan totaling $199.7 million. In September of 1995, a decision was made to grant Belarus a five-installment stand-by credit totaling $300 million. However, Belarus received only the first tranche of $70 million. An IMF mission found that the policies of the Belarusian government and the National Bank had run counter to the previously agreed program, which resulted in the suspension of further financing.

The IMF moved from futile admonishing to drastic measures when it decided to reduce the level of representation in Belarus. Now, the Fund's representative in Lithuania, Mr. Knobl, will keep a close eye on Belarus. According to some sources, he is shortly coming to Minsk to be introduced in the government and the National Bank as a future permanent representative of the IMF in Belarus pluralistically. Aside from this, another IMF mission is coming to Belarus to hold consultations as part of the Article 4 of the IMF Charter.

Just like other state officials, the government press secretary, Dmitry Malinovsky, refused to comment on the IMF move.

Independent experts contend that the Belarusian government has been consistently failing to meet its commitments before international financial organizations. A memorandum signed by the government and the World Bank in 1996, for instance, required currency exchange liberalization. This was never implemented and could have caused the dramatic plunge of the Belarusian rouble in March 1998. Experts maintain that it was the currency crisis that finally prompted the IMF to recall its permanent representative in Belarus.

*Reprinted from Belorusskaya Delovaya Gazeta*

# Курапаты: мінула дзесяць гадоў

«НАВІНЫ»

**Сёлета спаўняецца дзесяць гадоў, як беларускае грамадства даведалася пра таямніцу Курапацкага лесу пад Мінскам, дзе пахаваныя тысячы бязвінна забітых людзей.**

За мінулыя дзесяць гадоў пракуратура не аднойчы праводзіла следства, каб высвятліць імёны забойцаў, і кожны раз адказ быў адзіны: у Курапатах у 30-я гады НКВДзісты расстрэльвалі ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў. Але дагэтуль пэўная частка людзей, у асноўным, сталага ўзросту, упарта настойвае, што ў Курапатах расстрэльвалі людзей гітлераўцы.

Прыхільнікі гэтай версіі стварылі так званую «грамадскую камісію», якая вельмі актыўна атакавала ўсе дзяржаўныя інстанцыі з патрабаваннямі правесці новае следства, каб «устанавіць гістарычную праўду». Адразу знайшліся і сведкі фашысцкіх зверстваў. Дзіўна толькі, чаму гэтыя людзі маўчалі больш за пяцьдзесят гадоў, утойваючы падрабязнасці расстрэлаў ад спецыяльных камісіяў, што расследавалі злачынствы нацыстаў у Беларусі.

Летась «грамадская камісія» дамаглася, каб Ваенная пракуратура Беларусі зноў распачала следства па Курапацкай справе.

У кастрычніку 1997 г. Ваенная пракуратура правяла раскопкі трох брацкіх магілаў, пасля чаго прэс-цэнтр Пракуратуры Беларусі паведаміў, нібыта знайшліся доказы таго, што шэраг пахаванняў у Курапатах адносіцца да часоў Другой сусветнай вайны, і такім чынам усе высновы папярэдніх следстваў былі памылковымі.



*Алег Іоў.*

**Сітуацыю, якая сёння склалася вакол Курапатаў, каментуе Алег ІОЎ — археолаг, які ўсе дзесяць гадоў займаецца праблемай Курапатаў, аўтар кнігі «Курапаты». 40-гадовы Алег Іоў кіраваў групай археолагаў, якія ў мінулую восень праводзілі раскопкі ў Курапатах па просьбе Ваеннай пракуратуры.**

— Мне цяжка зразумець, што мела на ўвазе Пракуратура, гаворачы пра рэчавыя доказы, *«якія даюць падставу меркаваць, што шэраг пахаванняў адносіцца да часоў Другой сусветнай вайны»*. Трэба мець вельмі багатую фантазію, каб убачыць сярод соцень рэчаў, знойдзеных у 1997 годзе, такія «доказы». Відаць, таму іх і не змаглі назваць. На вялікі жаль, наша група звязаная падпіскай аб нераскрыцці таямніцы следства, таму я не маю права распавядаць пра нашыя знаходкі.

Але адна «таямніца» следства ўжо раскрытая начальнікам аддзела Пракуратуры РБ А.Доўбышам. Выступаючы па Беларускім тэлебачанні, ён заявіў, што Зянон Пазьняк ілгаў, гаворачы пра 30 тысячаў пахаваных у Курапатах. Заява Доўбыша базуецца на той падставе, што з 8 месцаў, якія лічыліся пахаваннямі, толькі тры аказаліся сапраўднымі магіламі. Але гэта толькі частка праўды. Калі б спадар Доўбыш быў больш аб'ектыўны, яму трэба было сказаць, колькі ахвяраў знайшлі ў тых трох магілах і як разважаліся «пустыя пахаванні» адносна асноўнай масы курапацкіх магілаў. Я ўпэўнены, што тады высновы пракурора былі б далёка не такімі пераканаўчымі.

Калі ў 1988 годзе ўпершыню праводзілася следства, мы адразу пачалі высвятляць, колькі ўсяго чалавек пахавана ў Курапатах. Зразумела, што перакапаць усю тэрыторыю Курапацкага лесу ў пошуках парэштказ людзей немагчыма. У такіх выпадках звычайна археолагі падлічваюць колькасць магілаў, а потым раскопваюць некаторыя з іх, каб ведаць сярэднюю колькасць пахаваных у адной магіле. І потым, ведаючы гэтыя лічбы, можна прыкладна вызначыць агульную колькасць пахаваных.

У 1988 годзе падчас раскопак мы адкрылі 6 магілаў, у якіх былі пахаваныя не меней за 356 расстраляных. У магілах мы знайшлі 177 гільзаў і 28 куляў. Усе — савецкай вытворчасці, ніводнай нямецкай. У трох магілах асабістыя рэчы пахаваных (галёшы, зубныя шчоткі, манеты, кубкі) — толькі савецкай вытворчасці, у іншых магілах — замежнай, але ў асноўным польскай. Так што і тут версія пра фашысцкі след у Курапатах не спрацоўвае.

Цяжэй было ўстанавіць, колькі ў Курапатах брацкіх магілаў. Там жа няма ні крыжоў, нічога. Але вядома, што ў месцах пахавання людзей зямля асядае. Такіх месцаў у Курапацкім лесе на той момант налічылі 510. Дарэчы, сёння ўжо вядомыя болей за 580 упадзінаў. Канешне, не ва ўсіх гэтых упадзінах ёсць чалавечыя парэшткі, некаторыя з іх маглі ўтварыцца ў выніку розных прыродных з'яваў. Але трэба ўлічваць таксама, што калі па той мясцовасці пракладвалі газаправод, не меней за 20-30 магілаў магло быць знішчана.

Такім чынам, колькасць загінуўшых была ацэненая ў 30 тысячаў. Але нават калі меркаваць, што ў Курапатах пахавана на 5 ці 10 тысячаў чалавек болей ці меней — хіба гэта мае прынцыповае значэнне? Галоўнае — хто расстрэльваў і каго расстрэльвалі. А на гэты конт, я лічу, больш не можа быць ніякіх дыскусіяў: **усё сведчыць пра тое, што ў Курапатах ляжаць менавіта ахвяры сталінскага рэжыму**, — падкрэсліў археолаг Алег Іоў.

А пакуль што следства працягваецца. Следчы Ваеннай пракуратуры Віктар Сомаў адмаўляецца ад любых каментароў да таго часу, пакуль не закрые справу. Тым часам у дзяржаўным друку з'яўляюцца новыя публікацыі, прысвечаныя курапацкай праблеме. Аўтары і героі гэтых публікацыяў называюць усе ранейшыя высновы, што зрабіла пракуратура па гэтай справе, памылковымі, некампетэнтнымі і нават «фальшывымі». Такім чынам «аматары гістарычнай праўды» імкнуцца апраўдаць куміраў сваёй маладосці, а таксама адпомсціць свайму сённяшняму «ворагу нумар адзін» — Зянону Пазьняку, які першым дакапаўся да праўды.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

*А.Лукашэнка:*

# Ніякіх выбараў!

**Аляксандр Лукашэнка выказаўся супраць правядзення прэзідэнцкіх выбараў у 1999 годзе, як таго патрабуе Канстытуцыя 1994 года.**

**Выступаючы 5 сакавіка на прэс-канферэнцыі ў Гродне, А.Лукашэнка заявіў, у прыватнасці: *«Апазіцыя сёння вядзе размову наконт выбараў прэзідэнта ў 1999 годзе. Ну хіба гэта праблема? Вы думаеце, я баюся гэтых выбараў? Ды падтрымалі б мяне людзі на гэтых выбарах. Але справа не ў гэтым. Небяспека заключаецца не ў саміх выбарах, а ў тым, што, пайшоўшы на гэтыя выбары, я перакрэсліваю канстытуцыю, прынятую на рэферэндуме, па якой выбары павінны адбыцца ў 2001 годзе. І потым, вы ведаеце, што такое выбары. Гэта хаос, неразбяруха. Варта толькі аб'явіць за год, і пайшло: жадаючых стаць прэзідэнтам — мора, пайшлі па вёсках народ бударажыць. Не тое, што не пасеем, не тое, што стратэгію, якую выпрацавалі сёння, не ажыццявім, — зноў атрымаецца хаос, і мы пагрузімся ў вір перадвыбарных баталій».***

# Што думае апазіцыя

Мы папрасілі прадстаўнікоў апазіцыі пракаментаваць заяву А.Лукашэнкі наконт таго, што ніякіх выбараў у 1999 годзе не будзе. Большасць апытаных намі палітыкаў скептычна паставілася да словаў прэзідэнта. *«Лукашэнка здрадзіў Канстытуцыі 1994 г., гэтак жа лёгка ён здрадзіць і сваёй канстытуцыі»*, — заўважыў **Сямён Шарэцкі**. Спікер ВС 13-га склікання заявіў, што па законе выбары павінны прайсці ўжо праз год і *«Вярхоўны Савет будзе на гэтым настойваць»*.

З тым, што заява Лукашэнкі яшчэ нічога не азначае, згодзен і **Лявон Баршчэўскі**. Кіраўнік БНФ упэўнены, што беларускі прэзідэнт у чарговы раз хітруе. *«Лукашэнка памятае, як наменклатура здала Кебіча, і баіцца, што гэтак жа абыдуцца і з ім»*, — лічыць Баршчэўскі. Спасылаючыся на крыніцы ў прэзідэнцкім асяроддзі, Баршчэўскі кажа, што Лукашэнка нібыта задумаў правесці прэзідэнцкія выбары разам з парламенцкімі ўсё ж у 1999 годзе. Прычым адначасова ён, быццам бы, хоча абраць і дэпутатаў у аб'яднаны расійска-беларускі парламент. Заява ў Гродне, на думку Баршчэўскага, зробленая з мэтаю выпрабаваць настроі як у грамадстве, так і ў прэзідэнцкім асяроддзі. Больш істотным Лявон Баршчэўскі лічыць не столькі заяву Лукашэнкі, колькі яе тон. Кіраўнік БНФ пачуў у голасе Лукашэнкі ноткі боязі. *«Было бачна, што ён вельмі баіцца аказацца без падтрымкі выбаршчыкаў, бо адчувае, як гэтая падтрымка на вачах знікае»*, — кажа Лявон Баршчэўскі.

Якой будзе пазіцыя Расіі? Ці ўваходзіць у яе інтарэсы адтэрміноўка прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі? Лявон Баршчэўскі ўпэўнены, што Крэмль дарue свайму саюзніку любыя «выбрыкі», толькі б той забяспечыў «заходні калідор». Але Крамлю прыйдзецца весці складаныя гульні, каб нейтралізаваць памкненні Лукашэнкі ўвайсці на расійскі прастол.

*«Расійская эліта ніколі не дапусціць прыходу Лукашэнкі да ўлады, там пойдуць нават на выключныя меры, калі такая небяспека ўзнікне»*, — упэўнены **Генадзь Карпенка**. Сярод мераў не выключаюцца і больш цывілізаваныя. *«Можа атрымацца так, што менш амбіцыйны, але не менш адданы Маскве чалавек прыйдзе да ўлады ў Беларусі ў выніку дварцовага перавароту»*, — кажа **Станіслаў Багданкевіч**. Менавіта на выпадак такога сцэнару, як ён лічыць, неабходна захаваць легітымным Вярхоўны Савет 13-га склікання, які прызнаецца ва ўсім свеце. Бо толькі гэта выратуе Беларусь ад чарговай марыянеткі.

Што можа зрабіць апазіцыя, каб дамагчыся выбараў у адпаведнасці з Канстытуцыяй 1994 года? Станіслаў Багданкевіч прапануе рыхтавацца да выбараў 1999 года ўжо зараз. Вызначыцца з адзіным кандыдатам, шукаць прыстойных людзей у выбарчыя камісіі, тлумачыць народу свае мэты. Канешне, на выбары можна пайсці толькі пры ўмове іх дэмакратычнасці. Разлічваць на дэмакратычныя выбары не даводзіцца, але заняць адзіную ўзгодненую пазіцыю адносна іх правядзення неабходна, упэўнены Лявон Баршчэўскі. За адзінства і спікер Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Спатрэбіцца — і ў будысты прымем

Гэтую невялічкую аддаленую сельскую сярэднюю школу замучылі апошнім часам тэлефонныя званкі. Хоць ты ўжо зусім апарат адключай. А з райцэнтра ўсё патрабуюць і патрабуюць правесці работу і стварыць замест піянерскую ды яшчэ мець патрыятычную маладзёжную арганізацыі. У выпадку невыканання гэтай ідэалагічнай задачы намякаюць вярхі прыехаць і глыбока праналізаваць увесь вытворчы і выхаваўчы працэс. Сабраў дырэктар педагогаў і пераканаў настаўнікаў выканаць гэту задачу. Згоды ў вучняў асабліва не пыталіся, а хуценька правялі з імі растлумачальную працу і неяк па-казённаму прынялі лепшых вучняў у піянеры, павязалі на лінейцы ім гальштукі. Праз пайшоў на павышэнне.

Вось гэту прамашку і заўважылі супрацоўнікі, як гаворыцца, кампетэнтных органаў. Застаецца пачакаць, ці ўдасца ім раскруціць справу да канца, бо былы старшыня займае цяпер даволі значную пасаду ў прэзідэнцкай вертыкалі аднаго з раёнаў Віцебшчыны.

# Аб чым баліць галава

Адным з сельскіх выканкамаў мясцовага савета дэпутатаў працяглы час кіраваў адзін чалавек, а калі выйшаў на пенсію, на ягонае месца была прызначана дачка. Звышнатуральнага тут нічога няма, толькі гэтая маладая жанчына здзівіла ўсіх, калі аднячасова стала членам КПБ. Памятаецца, яшчэ колькі гадоў назад вяліся размовы аб дэпартызацыі і дэпалітызацыі чыноўнікаў усіх рангаў. Натхнёная, вярнулася яна са сталіцы з чарговага з'езда кампартыі, дэлегатам якога была. Партрэт дарагога Уладзіміра Ільіча, пад якім яна сядзіць у сваім кабінеце, набыў ужо зусім непрывабны выгляд за доўгія гады. Дзе ні пыталася, нідзе не можа купіць сабе абнову на сцяну. Вось партрэтаў паважанага прэзідэнта краіны ўсюды навалам, а выяву правадыра сусветнага пралетарыяту хоць ты сам малюй. У роспачы, у каго толькі ні пыталася, а пакуль безвынікова.

Дарэчы, у многіх кабінетах яе вышэйстаячых начальнікаў у гэтым раёне таксама захаваліся "ленінскія абразы", і ў вокны службовых офісаў, як сталі цяпер гаварыць, таксама пільна ўглядаецца таварыш Ленін. Толькі, калі на званніцы побач размешчанага храма пачынаюць меладычна гудзець званы, нарэшце ўсведамляеш, што жыццё ў гэтых мясцінах, хоць пакрыху, але ідзе наперад.

Леанід ЛЫЧ

# АД ЗЬЕЗДУ ДА ЗЬЕЗДУ

(Спэцыяльна для "Беларускага Дайджэста")

Яшчэ зусім нядаўна Беларусь ўпершыню ўрачыста, па-сьвяточнаму сустракала сваіх сыноў і дачок, якіх па самых розных прычынах не заўсёды спагадлівы і літасьцівы лёс закінуў за яе межы. Сярод іх былі дзеці і ўнукі тых, хто апынуўся ў эміграцыі на пачатку нашага стагодзьдзя. Аднак пераважалі асобы, якіх прымусілі пакінуць родны кут надзвычай складаныя, заблытаныя падзеі другой сусьветнай вайны, нямецкай акупацыі. У той супярэчлівы час выбіраць пазыцыю, якая ў поўнай меры адпавядала-б нацыянальным інтарэсам беларускага народа, для многіх аказалася зусім няпростай справай. Былі і такія, што зьбіраліся вырашыць яе праз супрацоўніцтва з акупацыйнай уладай. З яе падзеньнем шмат хто з беларусаў, каб ухіліцца ад немінучага пакараньня, своечасова падаўся на Захад і стаў эмігрантам. На працягу ўсяго свайго існаваньня савецкая таталітарная сыстэма мела самае адмоўнае стаўленьне да такіх людзей, таму мала хто з іх адважваўся наведаць сваю незабыўную Бацькаўшчыну.

На шчасьце, у чалавечым грамадзтве нічога не застаецца бязьменным. Адбылося нарэшце яно і ў СССР, яго былых саюзных рэспубліках, у тым ліку і Беларусі. Стаўшы ў 1990 годзе на шлях сувэрэннага нацыянальна-дзяржаўнага разьвіцьця, яна пачала карэнным чынам мяняць свае погляды на падзеі далёкага і блізкага мінулага. Датычыла гэта і самай трагічнай старонкі нашай гісторыі — другой сусьветнай вайны. Абвінавачваньні не былі зьняты толькі з тых, па віне каго пылалі ў агні беларускія вёскі і гарады, гінулі людзі. Таму цяпер многія з тых, каго вайна з Нямеччынай беспадстаўна выштурхнула ў эміграцыю, усё часьцей пачалі наведваць сваю Бацькаўшчыну, сустракацца з роднымі і блізкімі. У час такіх шчырых і сяброўскіх сустрэч і ўзьнікла думка аб правядзеньні Першага зьезду беларусаў сьвету.

Ініцыятыву аб увасабленьні гэтай гуманнай ідэі ў жыцьцё ўзяў на сябе вядомы ў краіне культурны дзеяч, пісьменьнік Яўген Лецка. Ён вельмі хутка стварыў дзейны арганізацыйны камітэт — Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына", скіраваўшы ўсю яго працу на хутчэйшае правядзеньне зьезду нашых эмігрантаў. Адбылося такае 8-10 ліпеня 1993 году ў Менску. Час быў вельмі спрыяльны, бо ня толькі прагрэсіўная, нацыянальна-самасьвядомая грамадзкасьць краіны, але і яе дзяржаўныя органы зразумелі, як важна жыць у поўнай згодзе са сваімі супляменьнікамі з-за мяжы.

На працягу трох дзён працы Першага зьезду беларусаў сьвету Менск быў сапраўднай Мэкай для тысяч нашых суродзічаў з блізкага і далёкага замежжа. Разам з запрошанымі ўдзельнікамі гэтага незвычайнага форуму сюды завіталі і іх сем'і ці проста тыя, хто меў зацікаўленасьць да яго працы, не пашкадаваў сіл і сродкаў дзеля паездкі на сваю гістарычную радзіму. Менчан, як і жыхароў іншых гарадоў і вёсак, па-добраму зьдзіўляла, што абсалютная большасьць нашых зарубежных гасьцей, не ў прыклад многім мясцовым жыхарам, карысталася беларускай мовай. Менск ужо дзесяткі гадоў ня чуў такога масавага, паўсюднага гучаньня роднага слова.

Сьвяточны характар зьезда ня стаў перашкодай для сур'ёзнай размовы на ім аб шляхах беларускага Адраджэньня, бо знаходзілася-ж яно яшчэ толькі на сваім пачатку, не мела трывалай апоры ў моцна здэнацыяналізаванага народа і ў любы момант магло сустрэць самае рашучае супраціўленьне з боку тых, хто дзесяцігодзьдзямі праводзіў у нашым краі асымілятарскую палітыку як неабходную перадумову для пабудовы сьветлага камуністычнага грамадзтва. Выступоўцамі на зьезьдзе было выказана столькі разумных, слушных думак, што іх хапіла-б не на брашуру, а грунтоўную працу па праблеме нацыянальна-культурнага адраджэньня беларускага народа. І зусім недаравальна, што гэтыя несастарэлыя і на сёньня думкі мы так і не змаглі надрукаваць.

Вельмі зьмястоўнымі аказаліся і ўсе асноўныя дакуманты, прынятыя на зьездзе: Зварот да беларускага народу, Дэклярацыя аб прынцыпах нацыянальнага дзяржаўнага будаўніцтва, Зварот да парлямента і ўрада Беларусі, Заява па вайсковым пытаньні. Шкада, што абсалютная большасьць выкладзеных у іх думак адраджэнскага пляну так і не была ўзята пад увагу дзяржавай. Яна не прыслухалася да пажаданьняў форуму беларусаў: «выкарыстоўваць асоб з беларускай дыяспары як ганаровых консуляў, віцэ-консуляў і консульскіх агентаў Рэспублікі Беларусь у краінах іх пражываньня згодна з Міжнароднай Венскай канвэнцыяй аб консульскіх зносінах 1963 г.; разглядаць асоб беларускай дыяспары як магчымых дарадчыкаў, кансультантаў і спэцыялістаў па адпаведных праблемах ва ўрадавых установах Рэспублікі Беларусь; аказаць падтрымку Згуртаваньню беларусаў сьвету "Бацькаўшчыны" ў выданьні газэты для беларусаў замежжа; спыніць выкарыстаньне гімна былой БССР у якасьці дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь; прысьпешыць зацьвярджэньне новага гімна, які павінен адпавядаць нацыянальным ідэалам беларускага народу; вярнуць сталіцы Рэспублікі Беларусь г. Мінску яго гістарычную назву — Менск». Застаюцца архіактуальнымі і пасьвяньня прапановы зьезда аб неабходнасьці неадкладнай беларусізацыі войска, арганізацыі ў ім усёй выхаваўчай працы на грунце беларускага патрыятызму.

У таго, хто меў магчымасьць паслухаць выступленьні на зьезьдзе, азнаёміцца са зьместам прынятых на ім дакумантаў, стварылася цьвёрдае перакананьне, што ўсе яны былі скіраваны да аднаго; як нарэшце зрабіць жыцьцё Бацькаўшчыны па-сапраўднаму нацыянальным, беларускім. Наведаўшы зямлю сваіх продкаў, нашы госьці не маглі не заўважыць, колькі яшчэ на ёй усяго не свайго, суседзкага. Каб хутчэй пазбавіцца ад яго і даць сьцьвердзіцца роднаму, беларускаму, удзельнікі зьезду вельмі настойліва раілі грамадзка-палітычным рухам, інтэлігенцыі не марудзіць з перабудовай на нацыянальнай аснове навучальна-выхаваўчага працэсу ў вышэйшай і сярэдняй спэцыяльнай школе, што немінуча пераўтворыць яе з фактара асыміляцыі маладых пакаленьняў беларускага народа ў магутную сілу яго кансалідацыі ў цывілізаваную нацыю. На вялікі жаль, ад часу правядзеньня Першага зьезду беларусаў сьвету, мы ні на сантымэтр не зрушылі з месца дадзеную праблему. Па-ранейшаму нашыя ўнівэрсытэты і інстытуты, тэхнікумы і іншыя падобныя ім навучальныя ўстановы выпускаюць у жыцьцё моладзь, адарваную ад нацыянальнай культуры і мовы, здольную быць пераважна носьбітамі толькі рускіх духовых каштоўнасьцяў.

У час выступленьняў на зьезьдзе нашыя замежныя суродзічы зусім справядліва крытыкавалі заганную практыку масавага зьмяшчэньня рускамоўных тэкстаў на старонках беларускіх газэт і адсутнасьць нечага падобнага на старонках рускіх газэт. Якія-ж перамены ім давялося пабачыць у час Другога зьезду беларусаў сьвету, што праходзіў у Менску 25-28 ліпеня 1997 году? Самыя несуцяшальныя, у дзесяткі разоў горшыя, чым чатыры гады назад. Бо ў многіх беларускіх рэспубліканскіх, абласных і раённых (гарадзкіх) газэтах ад беларускага пазаставаліся толькі іх загалоўкі, прычым набіраюцца яны літарамі, намнога меншымі за асноўны рускі загаловак і стаяць ніжэй за яго. Такую зьнявагу нацыянальнай мовы з усіх эўрапэйскіх народаў, бадай, можа стрываць толькі славуты сваёй талерантнасьцю і рахманасьцю беларускі.

Яшчэ больш раздражнялі гэтым разам абсалютную большасьць беларусаў блізкага і далёкага замежжа перадачы айчыннага радыё і тэлебачаньня. Раней іх не задавальнялі беларуска-рускія дыялогі: пытаньне — па-беларуску, адказ — па-руску. Цяпер яны і гэтага амаль не пачулі, бо і пераважная большасьць радыё- і тэлежурналістаў ня лічаць патрэбным зьвяртацца па-беларуску да ўдзельнікаў перадач, асабліва калі дзеля гэтага запрошаны дзяржаўныя асобы, кіраўнікі прадпрыемстваў і ўстановаў. Стала няпісаным законам, што з гэтай элітарнай часткай нашага грамадзтва належыць гаварыць толькі па-руску, што бездакорна выконваюць журналісты электронных сродкаў масавай інфармацыі. Відаць, такая практыка прыйшла на радыё і тэлебачаньне не з вуліц і плошчаў, а хутчэй за ўсё з калідораў нашых заканадаўчай і выканаўчай уладаў, прычым самых высокіх. Даводзіцца з вялікім жалем прызнаць, што яшчэ ніколі на дзяржаўным узроўні беларуская мова так не ігнаравалася, як сёньня. Нават у самы пік каманднa-бюракратычнай сыстэмы кіраваньня грамадзтвам было прынята па-беларуску адкрываць і весьці паседжаньні Вярхоўнага савету БССР, дзеля чаго ў якасьці яго старшыні звычайна выбіраўся хто-небудзь з пісьменьнікаў. У абавязковым парадку хоць адно-два выступленьні ў час сэсіі рабіліся па-беларуску. Цяпер на такое не адважваецца ні адна з самых высокіх дзяржаўных асобаў Беларусі. Каб дзейнічаць ва ўнісон з апошнімі, баяцца прамовіць па-беларуску і ўсе падначаленыя ім асобы. Карацей кажучы, дакаціліся да таго, што ў апартаментах усіх рангаў дзяржаўнай улады зусім не чуваць беларускай мовы. Бедненькай заняло, як жабам перад рэзкім пахаладаньнем. Яна прагучыць толькі калі-нікалі з вуснаў міністраў культуры і асьветы, якія проста па характары сваёй прафэсійнай дзейнасьці абавязаны гаварыць на ёй, бо чаго добрага вартыя культура і асьвета, калі яны карыстаюцца не сваёй, а чужой мовай.

Крайна не задавальнялі ўдзельнікаў Першага зьезду беларусаў сьвету, мяркуючы паводле выступленьняў, гаротны стан беларускай прафэсійнай культуры, у якой у выніку працяглай і жорсткай асыміляцыі аказаўся вельмі дэфармаваны нацыянальны пласт. І як на тую бяду, за апошнія чатыры гады ён ня толькі не паздаравеў, а, наадварот, нават яшчэ больш захнуў, у чым, проста дзіўна, вінаваты многія прадстаўнікі мастацкай інтэлігенцыі Беларусі. Ня будучы ў належнай ступені надзелены беларускай нацыянальнай самасьвядомасьцю і ў той-жа час маючы вялікую прагу да як мага большай вядомасьці, яны ўвесь свой талент і энергію аддаюць на карысьць рускай культуры з надзеяй разам з ёй і самім выйсьці ў шырокі сьвет, замест таго, каб усёй сваёй прафэсійнай дзейнасьцю паспрыяць вываду беларускай элітарнай культуры з таго цяжкага становішча, у якое прывяла яе асыміляцыя. Цяпер рускамоўны пласт у духоўным, мастацкім жыцьці Беларусі дасягнуў такіх памераў, якіх ніколі не назіралася за ўсю яе гісторыю. І вельмі шкада, што велізарнай, сьмяротнай трагедыі ў такіх неразумных суадносінах паміж беларускай і рускай культурамі на іх прафэсійным узроўні ня бачаць ці ня хочуць бачыць ні нашыя палітыкі, ні прадстаўнікі творчай, навуковай інтэлігенцыі. Проста не ўкладваецца ні ў якія рамкі: як можна было так скласьці рэпэртуар да сьвята незалежнасьці Рэспублікі Беларусь, што паводле зьместу і мовы песень ён больш дапасоўваўся да сьвяткаваньня незалежнасьці Расійскай Фэдэрацыі, чым нашай краіны? І калі мы ўжо навучымся паважаць самі сябе?

Трымаць беларускую нацыянальную прафэсійную культуру ў загоне ў нас заўжды было модным. Стаўленьне да яе не зьмянілася і ў сёньняшніх кіраўнікоў дзяржаўных установаў культуры. Іх цалкам задавальняе, што і сучасная беларуская культура носіць пераважна фальклёрны характар. Бязумоўна, усе віды фальклёрнага, традыцыйнага мастацтва — гэта важны пласт кожнай культуры, але сёньня без сапраўднага росквіту яе прафэсійных жанраў ужо ніводную культуру нельга назваць высокаразьвітай, надзейна адгарадзіць яе ад асыміляцыі, якая, на вялікі жаль, пагражае, трушчыць ня толькі беларускую культуру. Калі цывілізаваны сьвет сваімі агульнымі намаганьнямі не зробіць неадкладных рашучых захадаў па выратаваньні слабых, не па сваёй віне, нацыянальных культураў і моў ад асыміляцыі, у XXI стагодзьдзі ён панясе такія страты, з якімі нельга будзе параўнаць страты аніводнага з папярэдніх стагодзьдзяў.

Як гэта не балюча прызнаць, але час паміж Першым і Другім зьездамі беларусаў сьвету — гэта час далейшага высіленьня нашага нацыянальна-культурнага жыцьця. Многія шаноўныя госьці з-за мяжы заўважылі, што сёньня ў ім прыродна-беларускага яшчэ менш, чым чатыры гады таму назад. За гэты час больш страчана, чым набыта шчырых актыўных і пасыўных носьбітаў беларускай нацыянальнай культуры і мовы. І як вынік, мы яшчэ бліжэй падышлі да мяжы сваёй этнічнай сьмерці. Пішу пра гэтую горкую праўду не дзеля таго, каб нагнаць страх, пасяліць няўпэўненасьць у душы тых, хто яшчэ спавядае сьвятую беларускасьць. Поўным зьняцьцем заслоны, агаленьнем духоўнага жыцьця з мэтай паказаць адсутнасьць у ім трывалых нацыянальных пачаткаў, хачу не аслабіць, а, наадварот, мабілізаваць усе здаровыя сілы беларускага народу на рашучае змаганьне за сваё этнічнае выжываньне. Паколькі палітыка дзяржавы ў пытаньнях культуры, адукацыі і мовы не скіравана на ўмацаваньне ў іх нацыянальна-беларускіх асноў, а больш мае прарускі характар, усё, што ёсьць жывога, здаровага ў беларускім народзе, павінна з патроенай энэргіяй змагацца супроць свайго этнічнага разлажэньня. Сьвяты абавязак нацыянальна-самасьвядомых грамадзка-палітычных і культурных дзеячаў данесьці да розуму народу ўсю праўду аб тым, да чаго ён ужо прыйшоў і што яго чакае ў самы бліжэйшы час, калі ўсёй грамадой рашуча не выступіць супроць культурна-моўнай асыміляцыі, не пачаць жыць паводле сваіх прыродных нацыянальна-духовых традыцыяў, як гэта робіць кожная цывілізаваная этнічная супольнасьць. Многія народы трапілі ў не менш цяжкае становішча, чым беларускі, але калі ў іх не памірала жаданьне выжыць, яны дасягалі гэтай мэты і сёньня сваім непаўторным культурна-самабытным жыцьцём узбагачаюць духоўны сьвет цывілізацыі. Нам трэба ўсяляк старацца, каб у людзей да канца не згаспу агеньчык беларускасьці. Несьці яго ў народ пакуль што ёсьць яшчэ каму. Давайце не ленавацца працаваць з людзьмі. Трэба абавязкова выстаяць, перамагчы гэтую страшэнную навалу. Рана ці позна дзяржава зразумее, што без нацыянальнай культуры, адукацыі і мовы яна проста не дзяржава, а недаразьвіты прыдатак таго, чыёй культурай, адукацыяй і мовай карыстаецца. Вера ў перамогу беларускай нацыянальнай ідэі на адведзенай ёй самой гісторыяй зямлі не павінна ні на хвіліну пакідаць нас. Толькі тады сьвятую справу нацыянальна-культурнага Адраджэньня мы

давядзем да лягічнага канца, ня будзем пракляты нашымі нашчадкамі. Верылася, што чарговы зьезд беларусаў сьвету ўвальле новы магутны струмень у раку нашага нацыянальна-культурнага Адраджэньня, у многім пасадзейнічае таму, каб яно стала незваротным і пераможным.

Такім магутным фактарам, такой жаданай падзеяй ня стаў Другі зьезд беларусаў сьвету. Прычын гэтаму хапае. Якая з іх самая галоўная, цяжка сказаць. І ўсё-ж асьмелюся назваць ёю праігнараваньне абсалютнай большасьцю беларускіх асяродкаў далёкага замежжа прапановы ўзяць удзел у працы зьезду. Матывавалася такое ігнараваньне неспрыяльнай палітычнай сытуацыяй на Беларусі. Бясспрэчна, сытуацыя і сапраўды была архінеспрыяльнай. Дастаткова будзе спаслацца хоць-бы на такі факт, што дазвол на правядзеньне зьезду ў памешканьні Мінскага тэатра музычнай камэдыі Ўправа згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" атрымала ледзь не за паўсуткі да яго адкрыцьця. Не забудземся, што з просьбай на дазвол даводзілася зьвяртацца да зусім абыякавых, раўнадушных да беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэньня службовых асобаў, бо іншага выйсьця ў той экстрэмальнай сытуацыі проста не знаходзілася. І ўсё-ж не я ніяк не асьмелюся назваць да такой ступені неспрыяльнай, каб запрошаным прадстаўнікам ад беларусаў далёкага замежжа не зьявіцца на свой чарговы зьезд. А можа наадварот, у такой сытуацыі трэба было ехаць на Бацькаўшчыну як мага большай колькасьці як сыноў і дачок, што жывуць у эміграцыі, каб сумеснымі намаганьнямі выпрацаваць дзейныя захады па выратаваньні беларускага народу ад нечувана пагрозьлівай на сёньня яго культурна-моўнай асыміляцыі. Сур'ёзнай прычынай адмовы ад удзелу ў працы зьезду магла быць толькі рэальная пагроза трапіць яго замежным пасланцам у пастарункі спецслужбаў. На шчасьце, такой пагрозы не існавала.

Адсутнасьць патрэбнай колькасьці прадстаўнікоў беларускай эміграцыі Захаду пераўтварыла зьезд беларусаў сьвету практычна ў сход беларусаў блізкага замежжа, падобна таму, што ўпершыню праходзіў у нас у сьнежні 1992 г. На гэты раз нам не ўдалося пачуць тых глыбокаўзважаных, слушных думак, якімі так багаты былі выступленьні беларусаў заходняй дыяспары ЗША, Англіі, Аўстраліі, Нямеччыны, Францыі, Бельгіі ў час Першага зьезду беларусаў сьвету. Тады імі даваліся такія каштоўныя парады па адбудове, навядзеньні парадку ў нацыянальным жыцьці метраполіі, што нам, жыхарам яе, станавілася многае больш зразумелым. Сёньня, калі нацыянальна-культурнае Адраджэньне буксуе нават на роўным месцы, пачуць такія парады ад сваіх супляменьнікаў, што прайшлі такую багатую, адмысловую школу змаганьня на чужыне за інтарэсы сваёй Бацькаўшчыны, было-б вельмі дарэчы.

Усё больш і больш пераконваюся ў тым, што як толькі стала вядомым аб непрыезьдзе на Другі зьезд беларусаў сьвету нашых суродзічаў з краін Захаду, разумней было-б спыніць усю падрыхтоўку да яго правядзеньня і неадкладна высьветліць прычыны, што перашкаджалі сустрэчы з так патрэбнымі нам людзьмі. Як цяпер стала бачна, Другі зьезд беларусаў сьвету зусім не паўплываў у лепшы бок на сытуацыю ў краіне. Значыцца, чым праводзіць яго такім малапрадстаўнічым і малаэфэктыўным, было-б куды лепш зрабіць гэта годам пазьней і на больш высокім узроўні.

(Працяг у наступным № газэты)

## ПРАВАСЛАЎНАЕ НАБАЖЭНСТВА ПА-БЕЛАРУСКУ

У Менску ствараецца першы праваслаўны прыход, дзе ў набажэнствах будзе выкарыстоўвацца пераважна беларуская мова.

Па словах айца Г. Латушкі, настаяцеля Петрапаўлаўскай царквы, што на Нямізе, гэтую ідэю падтрымалі сьвятары і многія вернікі, сваё блаславеньне даў і міт. Філарэт. Магчыма новы прыход атрымае назву «ў гонар усіх беларускіх сьвятых», а ўзначаліць яго а. Сяргей Гардун. Прыхаджаньне спадзяюцца атрымаць ад гарадзкіх уладаў пляц у цэнтры Менска для будаўніцтва свайго храма, які будзе мець характэрнае аблічча ў адпаведнасьці з традыцыямі беларускай храмавай архітэктуры. Пры парафіі будуць працаваць суполкі, якія займуцца перакладам богаслужбовых кніг на беларускую мову. Да друку ўжо падрыхтаваны пераклад Евангельля ад Марка, "Малітоўнік" і кароткі "Трэбнік".

Алесь Дашчынскі

Такую вестку падала беларуская прэса на Бацькаўшчыне. А мы у замежжы пажывём, пабачым ці гэта праўда...

ІНТЭРВ'Ю ЖУРНАЛІСТА Алены МАЛОЧКА З ВЯДОМЫМ БЕЛАРУСКІМ ДРАМАТУРГАМ АЛЯКСЕЕМ ДУДАРАВЫМ

# НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ – ГЭТА ГОДНАСЦЬ, СУМЛЕННЕ І ГОНАР

*— Аляксей Ануфрыевіч, хачу зьверыцць адчуваньні: маятнік хіснуўся, і ў грамадзтве зноў нарастае цікавасьць да творчай інтэлігенцыі, да інтэлектуалаў. А як здаецца вам?*

— Бадай, што так. Заканчваецца век "простага" чалавека. Так званага "простага"... Век, які пачаўся з Кастрычніцкай рэвалюцыі, калі ўсё больш ці менш адукаванае, выхаванае, уладкаванае было аб'яўлена рэакцыйным, лішнім, непатрэбным перажыткам, а ўзамен абвешчана прастата. Але не тая высокая прастата, якую прапаведуе хрысціянства: кім бы ты ні быў, не забывай, што перш за ўсё ты — грэшны і недасканалы чалавек. Не, узамен надзьмутага высакамернага дваранства і духавенства прыйшоў не менш чванлівы "просты" клас з нахабным агрэсіўным атэізмам. Ваяўнічыя бязбожнікі! Малаадукаваныя, грубыя людзі. "Затое з рабочых і сялян!" І зноў не ўнутраныя якасці, не маральныя вартасці, а паходжанне чалавека стала галоўным. Гавару пра гэта так непасрэдна, таму што сам з вёскі, з самых што ні ёсць простых сялян. Маю права... Але час даказаў, што на такой "анкетнай" прастаце доўга не працягнеш. Інтэлігенцыя не павінна жыць у грамадстве, пастаянна як бы просячы прабачэння за сваё існаванне. Хаця, прызнацца, яна сама ў многім падрыхтавала рэвалюцыю, сама вінаватая ў тым, што апраўдвала тэрор, клікала на барыкады, адмаўляла Бога. У выніку з-за страшных сацыяльных катаклізмаў Белае змяшалася з чорным. І што атрымалася? Шэрае. Бруднае. Знікла яснасць хрысціянскіх арыенціраў, агульначалавечых прынцыпаў. У галовах — блытаніна. І вось цяпер нарэшце грамадства, па-мойму, зноў гатова ўсвядоміць і падзяліць па палюсах "чорнае і белае". А за чалавекам, як заўсёды, застаецца права выбару: працаваць, шукаць шлях ісціны, пакутаваць, каяцца. Ці ісці туды, дзе за прададзеную душу добра плацяць.

*— Як вы ставіцеся да сцвярджэння, што сумленная інтэлігенцыя заўсёды павінна быць у апазіцыі да ўлады?*

— Мне здаецца, гэты пасыл перш за ўсё не варта прымаць напрамую, гэта значыць так, быццам інтэлігенцыя павінна стрымліваць і пастаянна крытыкаваць тых, хто знаходзіцца ля руля дзяржавы. Апазіцыйнасць інтэлігенцыі заключаецца ў іншым: сродкамі мастацтва як мага гучней гаварыць з уладай аб болю народным, аналізаваць, прапаведаваць, прадказваць... Сапраўдныя творцы рабілі гэта ва ўсе часы, і ва ўсе часы ўладзе гэта вельмі не падабалася. "Мая праўда, таму што я — князь". І нават калі на змену прыходзіў іншы, ніхто з іх ніколі не прызнаваў, што так, былі "жрацы мастацтва", якія папярэджвалі, перасцерагалі... Што зробіш, каставасць улады вечная.

*— Вычарпала сябе яшчэ адна хваля нацыянальнага адраджэння. Якія вывады вы робіце сёння з гэтага факта?*

— Вывады рабіць ранавата, а вось роздумы наконт гэтага маюцца. Усю гісторыю беларусы жылі не адны: то з Польшчай, то з Расіяй, то пад немцам. Працэс інтэграцыі зайшоў у глыб свядомасці. На нашай зямлі здаўна "чорта танцавалі", як гавораць у народзе, — віхар круціўся яшчэ той. Сапраўдны Вавілон. Ці добра, ці дрэнна, але гэта — данасць. Рэальнасць. Трэба жыць і добра разумець, што частка народа ніколі не згадзіцца выключыць з ужывання рускую мову. Ніколі. Нават сапраўдныя беларусы, гаспадары зямлі. Руская мова ўвайшла ў іх плоць і кроў. Але калі беларусізацыю праводзіць гвалтоўна, пугай, тады якая ж гэта дэмакратыя? Трэба вучыцца суіснаваць у рэаліях. А як інакш? Браць вілы і ісці ў лес? Я катэгарычна супраць гэтага. Няма такой ідэі, дзеля якой трэба не на жыццё, а на смерць біцца адзін з адным. Іншая справа, што наша старажытная славянская мова можа знікнуць зусім. Гэта будзе катастрофа! Таму што любая мова — каштоўнасць, фарба, з якой створаны партрэт усяго чалавецтва. Але беларуская мова цяпер у небяспецы... Раней яна падпітвалася вёскай. Цяпер наша вёска жыве ў зусім іншым вымярэнні і сама мае патрэбу ў дапамозе. За нашу мову я буду змагацца да апошняга, таму што душа мая гаворыць на беларускай, руская — для быту, для "кухні", але ў творчасці... Творчасць — песня. А песні спяваць я магу толькі на роднай мове.

*— Аляксей Ануфрыевіч, ад чаго ў вас, вобразна кажучы, часам рукі апускаюцца?*

— Ад нашай дваістасці. Я не ведаю, у якой дзяржаве я жыву. Мне не хапае прыкмет дзяржаўнасці! Яны ёсць, але вонкавыя, не глыбінныя. Гэта цягнецца гадамі, я проста стаміўся. Ва ўсіх дзяржавах, калі ты — патрыёт, да цябе ставяцца з павагай. У нас рэакцыя прыкладна наступная: "Патрыёт? Значыць, нацыяналіст! Значыць, супраць Расіі!" Пабойцеся Бога, чаму? Чаму тады не супраць Польшчы, Украіны, Літвы? І што гэта за клікунства, пачатае яшчэ дзесяць гадоў назад аб ярых нацыяналістах, гатовых развязаць грамадзянскую вайну? Дзе вы іх бачылі? Хіба што ў фільмах з грубай, свалачной падтасоўкай... Кучка пісьменнікаў, дзеячаў мастацтва, вучоных, дзесятак дзяржаўных чыноўнікаў на шкоду сабе адстойваюць беларускую мову, нашу гісторыю і нацыянальную культуру ў процівагу добра падкормленай бязлікай "папсе". І гэтыя людзі ўяўляюць пагрозу грамадскаму спакою? Сумна... Патрыятызм у нашых розумах — паняцце параненіем вельмі расплывістае. Гэтаму, вядома, ёсць гістарычныя прычыны. Толькі ў XX стагоддзі колькі разоў Беларусь заваёўвалася? Спачатку Кайзер, потым белапалякі, потым Гітлер. Чырвоная Армія пайшла да Масквы, а мая маці застапася ў 41-м з дзвюма маленькімі дзяўчынкамі на руках. Што ёй было рабіць? Павесіцца? Не, яна пайшла працаваць... Не, не, не супрацоўнічаць з акупантамі, а гарбом сваім зарабляць кавалак хлеба дзецям. Як, зрэшты, і пры Саветах... Ад гэтай вечнай "капатнечы" ў беларусаў (маю на ўвазе прыналежнасць да краіны, а не нацыянальнасці) ужо на генетычным узроўні выпрацавалася, што патрыятызм — гэта небяспечна. Лепш не высоўвацца з пачуццямі, а проста моўчкі і тупа працаваць. Гэта засмучае мяне і трывожыць. Я хацеў бы, каб наша дзяржава была незалежнай і магутнай настолькі, што магла б прымаць самастойныя рашэнні, каб лёс маіх дзяцей не залежаў ад таго, ці выспаліся ў Варшаве і Кіеве і ці паспелі пахмяліцца ў Крамлі. Я не разумею, як гэта можа быць, каб па беларускім радыё выступаў такі чалавек, як Алксніс, і гаварыў на ўсю рэспубліку: "Якая вы дзяржава? Ніколі вы ёю не былі і не будзеце!" А журналіст, радыёптушачка зачараваная, яму падтаквае... Але як тады быць з Канстытуцыяй? Ды ў іншай краіне яго выгналі б за межы ў 24 гадзіны! А ў нас гэта праходзіць без каментарыяў, непрыкметна. Мы не ўмеем пастаяць за сябе. Рукі апускаюцца менавіта ад гэтага.

***— Быў час, вы ўдзельнічалі ў сходах Аб'яднанай грамадзянскай партыі, хадзілі на мітынгі і дэманстрацыі. Вас папракаюць сёння за тыя ці іншыя палітычныя прыхільнасці?***

— А ў чым мяне папракаць? Я ніколі нічога ад палітыкі не атрымліваў, акрамя арытміі. На палітычную кар'еру не спадзяваўся, вядомасці мне і так хапае. Так, быў момант, калі творчая інтэлігенцыя выйшла на трыбуны, на плошчы. Гэта адбылося ад беднасці, ад адчаю. Цяпер палітычная актыўнасць творчых людзей знізілася. І правільна, Кесару — Кесарава, Богу — Богава. Дзяржаўныя мужы не могуць займацца творчасцю, і, наадварот, мы не павінны лезці ў палітыку.

*— А вы ніколі не стаялі перад выбарам: творчасць ці кан'юнктура?*

— Што вы маеце на ўвазе? Кан'юнктура — гэта прафесіяналізм. Што ў гэтым дрэннага? Пісьменнік павінен быць пачутым, запатрабаваным. Адзінае, што не дазволена, дык гэта быць графаманам, гэта значыць пісаць па прынцыпу "чего изволите". Хаця ў прынцыпе сапраўдны талент немагчыма прымусіць служыць "каму трэба" ні гарачым жалезам, ні салодкім пернікам. Справа ў тым, што клапаны, якія адказваюць у душы творчай асобы за сувязь з Космасам, з Усявышнім, аўтаматычна закрываюцца, як толькі пачынаеш фальшывіць, пісаць, каб дагадзіць. Гэта значыць пісаць ты, вядома, будзеш. Але дар Божы пры гэтым знікне, як быццам і не было. У савецкай літаратуры колькі хочаш прыкладаў такога графаманства... Сорамна, напэўна, потым...

*— Якой вы бачыце Беларусь у будучыні?*

— Незалежнай.

*— А што асабіста для вас азначае гэтае паняцце — незалежнасць?*

— Сумленне, годнасць і гонар.

**("Народная газета").**





Вастрабрамская вуліца.

### 1. Адрас

Віленская беларуская школа імя Францішка Скарыны знаходзіцца па адрасе — Сеціна, 21. Калі даведваешся, што ў перакладзе з літоўскае гэта значыць — вуліца Нябеснага промня, імгненна зайздросціш: якая дзівосная назва! І міжволі пачынаеш думаць, што наогул было б цудоўна, каб школы знаходзіліся на вуліцах Лагоды, Пяшчоты, Шчырасці; на праспектах Світання, Харàства, Разумення...

### 2. Пераемнасць

Гэтая школа — духоўная спадчынніца Віленскай Беларускай Гімназіі. Першага лютага — дата заснавання славутай Гімназіі — для "сецінскіх" навучэнцаў і выкладчыкаў вялікае свята, да якога выпускаецца адпаведнага зместу насценная газета. Таксама праводзіцца канцэрт і адбываюцца сустрэчы з былымі вучнямі Гімназіі. Дарэчы, срэбрагаловы і прыязнаўсмешлівы спадар Яраслаў Станкевіч, які выкладае юным "сецінцам" хімію, да сярэдзіны 1944 года таксама вучыўся ў Віленскай Беларускай Гімназіі...

### 3. Пачатак

У 1992 годзе набраны першы клас; у 1994-м — з'явіўся свой будынак, у якім раней месціўся дзіцячы садок. Памяшканне, аднак, не надта зручнае для школьных заняткаў, таму літаральна па сённяшні дзень яго даводзіцца перапланіроўваць — разбіраць непатрэбныя перагародкі і ўзводзіць патрэбныя, шкліць вокны, навешваць дзверы, фарбаваць падлогу, тынкаваць сцены і г.д. Грошай, вядома, на такія пераробкі няма. Усё даводзіцца рабіць сваімі рукамі. І ці не штодня гэтымі бясконцымі клопатамі займаецца артыстычнага выгляду намеснік дырэктара Раман Вайніцкі. Спадар Раман паспяхова авалодаў цяслярскім і мулярскім майстэрствам і сваёй руплівасцю сціпла сведчыць — адраджэнне беларускага школьніцтва, асабліва за мяжой, патрабуе не толькі ўласна педагагічнай, аднак жа і фізічна-мазольнай працы.

Спадару Раману дапамагае школьны сталяр, пенсіянер Варсануфій Ксінафонтавіч Родкін. Імя і імя па бацьку гэтага чалавека ўразілі. Мне сказалі, што Варсануфій Ксінафонтавіч са старавераў...

"КУЛЬТУРА"

### 4. Вонкавыя назіранні

Кабінет экалогіі, камп'ютэрны клас, сталоўка, ак-


Дырэктар Галіна Сівалава.

тавая зала, бібліятэка; у двары — аўтобус, падораны Міністэрствам адукацыі Беларусі... У актавай зале — карціны. Чытаю прозвішчы мастакоў — Г.Лойка, Л.Дударэнка, Л.Мельнік, Г.Шаура... У калідоры — насценная газета "Усмешка" і тэматычны лісток "Зямля, што натхняла Міцкевіча", прысвечаны 200-годдзю паэта... У іншым калідоры — кулінарная газетка "Смачна есьці", з якое можна даведацца, як згатаваць пончыкі бульбяныя і салату "Хвілінка"... Скрозь — чыста і светла. Непатрэбных драбніц няма, бо любой драбніцы нададзена неабходнае значэнне. У гэтай школе хочацца вучыцца.

### 5. Бібліятэка

На дзвярах словы: "Кніга — маленькае акенца, ды праз яго ўвесь сьвет відзён".

Элегантная спадарыня Дзіяна Стахновіч, выкладчыца беларускай мовы і літаратуры, і яна ж бібліятэкарка, шчасліва хваліцца: у нас сем тысяч тамоў толькі беларускай літаратуры. Такое кніжнае багацце ўзнікла, дзякуючы клопату супрацоўнікаў Гродзенскай абласной бібліятэкі, а таксама руплівасці культурных і грамадскіх дзеячаў, якія жывуць на эміграцыі... У чытальнай зале ў сімвалічным суседстве два скульптурныя партрэты — Янкі Купалы і вялікага князя Вітаўта.

### 6. Лічбы і святочныя гульні

Школа дзяржаўная, разлічана на дванаццацігадовае навучанне. У дзень звычайна праводзіцца па восем урокаў. Вядома, вывучаюцца ўсе неабходныя матэматычна-"камп'ютэрныя" дысцыпліны, але мяне найбольш цікавіла філалагічная праграма і вось аб чым я даведаўся: з першага класа выкладаецца беларуская, руская, літоўская, англійская мовы; у старшых класах — лаціна, а факультатыўна — іўрыт і польская...

Колькасць вучняў у класах самая розная. Напрыклад, у шостым класе вучыцца дванаццаць хлопчыкаў і дзяўчынак.

Канечне, найбольш клопату маюць дванаццацікласнікі — ім сёлета паступаць. Ёсць, дарэчы, і такія, якія збіраюцца стаць абітурыентамі мінскіх ВНУ. Свой незабыўны клопат выпускнікі таленавіта ўраўнаважваюць святочнымі гульнямі. У лютым, напрыклад, правялі адмысловае свята — 100 дзён да экзаменаў. Асаблівасць гэтай імпрэзы заключалася ў жарце — будучыя выпускнікі наўмысна апрануліся ў адзенне маленькіх дзетак і з асалодаю з'елі манную кашу — любімую страву першакласнікаў.

### 7. Дырэктар і настаўнікі

Адраджэнне для Беларусі — працэс бясконцы. З такой мала суцяшальнай высновай мы амаль ужо звыкліся. Педагагічны калектыў віленскай школы імя Францішка Скарыны жыве, як мне здалося, паводле іншага, больш памяркоўнага правіла: беларускае адраджэнне — клопат штодзённы. Кожны дзень павінен быць нацыянальна змястоўным, асабліва калі гэты дзень пачынаецца тут — над мурамі "... старой, каханай Вільні". Дырэктар школы спадарыня Галіна Сівалава, прывабная, эмацыянальнага характару жанчына, нястомна натхняе сваіх падначаленых: менавіта штодзённа набліжайце сваіх выхаванцаў да нацыянальнага зместу, да беларускай прыгажосці...



Не магу сказаць, што на вуліцы Сеціна, 21 працуюць абсалютныя адзінадумцы і рамантыкі, але ўпэўнены — у гэтай віленскай школе працуюць людзі натхнёныя.

Мне запомніўся па-балетнаму зграбны Мікалаюс Стасівас, выкладчык геаграфіі. Сваёй стоенасцю ён нагадвае і, мусіць, не аднаму мне, героя́ў прозы Альфонсаса Беляўскаса.

Мне было вельмі прыемна размаўляць з Данутай Базар, выкладчыцай матэматыкі і інфарматыкі, класнай кіраўніцай дванаццатага класа. У аксамітных вачах спадарыні Данута — анёльская зычлівасць, а ў словах непадманная трывога за нашу Беларусь.

Сваёй літаральна эстраднай імпульсіўнасцю і рашучай апалогіяй фемінізму здзівіла Рамуальда Яцкявічэне, выкладчыца літоўскай мовы.

А настаўніца Леакадзія Мілаш — жанчына незвычайнага паэтычнага даверу да субяседніка. Яна выкладае родную, а таксама рускую мову і літаратуру; яна ўлюбёная ў паэзію Максіма Багдановіча, дасканала ведае "беларускую Вільню" і можа бясконца, не стамляючыся, цікава расказваць і паказваць гэту архітэктурную казку — гэтую сапраўды "крывіцкую Мекку". Вільня — самы прыгожы беларускі сон. Слухаючы рамантычную спадарыню Леакадзію, я ўспамінаў класічныя радкі:

*Калі сябры нас гудзяць згубаю*
*І ворагі прарочаць скон,—*
*Тады к табе, о Вільня любая,*
*Прыводзяць згадкі у палон...*

А яшчэ я ўяўляў сябе вучнем настаўніцы Леакадзіі Мілаш, вучнем віленскай беларускай школы з яе неад'емным законам: адраджэнне — клопат штодзённы...

### 8. Трывога

"Тут, у Літве, мы ўсё яшчэ чужыя, а там, у роднай Беларусі, мы ўжо не свае", — пачую я падчас развітання.

Што на гэта скажаш? Нічога. Праўда адчуванняў — самая высокая праўда. Аднак жа можна суцешыцца радком Янкі Купалы: "Мы ў сваім чужыя..." Такі наш лёс. Трэба суцешыцца і працаваць...

**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**
*Вільнюс—Мінск*

# КНІЖНЫ ГІД ПА БЕЛАРУСІ

Нядаўна мне ў рукі патрапіла кніга Гжэгажа Ракоўскага "Ілюстраваны экскурсавод па помніках даўніны культуры на Беларусі". Выданне з'явілася на свет дзякуючы намаганням выдавецтва "Burchard Edition" і Міністэрства культуры і мастацтва Польшчы.

Гэтая кніга сапраўдны культурны гід, бо ў ёй ёсць літаральна ўсе звесткі аб беларускіх помніках культуры — слоўнічак тэрмінаў, бібліяграфія, індэкс геаграфічных назваў і прозвішчаў, карта Беларусі. Выданне аддрукавана на добрай паперы і змяшчае ў сабе арыгінальныя ілюстрацыі. Выдавец Пшэмыслаў Бурхард і аўтар Гжэгаж Ракоўскі напісалі да "культурнага гіда" прадмовы.

Вандруючы па старонках выдання, мы трапляем у самыя розныя беларускія гарады і вёскі. Усе назвы мястэчак Беларусі падаюцца згодна з польскім алфавітам (але побач, у дужках, назвы даюцца і пабеларуску). Ёсць тут звесткі і пра культурныя здабыткі кожнага мястэчка — прычым усё напісана ў лаканічнай форме. Геаграфічны экскурс кнігі пачынаецца з Анопаля, а заканчваецца знакамітымі Жыровічамі.

"Культурны гід" мае 320 старонак, якія ствараюць велічную і запамінальную сімфонію адметнай культурнай спадчыны беларускага народа.

**Міхась МАЛІНОЎСКІ,**
**правадзейны член Геаграфічнага таварыства,**
*Баранавічы*

# Цэнтр грамадзянскай адукацыі

31 студзеня г.г. у Беластоку адбылося ўрачыстае адкрыццё Цэнтра грамадзянскай адукацыі Польшча-Беларусь. Ініцыятарамі ўтварэння Цэнтра былі былы пасол Сейма РП Артур Смулка, старшыня Беларускага саюза Яўген Вапа, наш рэдакцыйны калега Алег Латышонак і Марцін Рэмбач, былы публіцыст мясцовай прэсы. Стваральнікі гэтай установы атрымалі падтрымку вядомых польскіх палітыкаў і грамадскіх дзеячаў, а Яцак Курань, Збігнеў Буяк, Рышард Бугай, Караль Мадзалеўскі, Балеслаў Сулік, Анджэй Закшэўскі сталі членамі Праграмнай рады Цэнтра. Мэта, якую паставілі сабе арганізатары — дапамога беларускай дэмакратыі. У сувязі з тым плануюцца семінары, канферэнцыі, курсы для журналістаў, прафсаюзных дзеячаў, вучоных, моладзі, будучых самаўрадавых дзеячаў.

На адкрыццё Цэнтра з Беларусі прыехалі знакамітыя прадстаўнікі тамашняй апазіцыі — Вінцук Вячорка, Станіслаў Шушкевіч, Георгій Таразевіч, Віктар Івашкевіч, Алег Трусаў. Урад Беларусі прадстаўляў генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Мікалай Крэчка.

Віктар Машчыньскі, прадстаўнік галоўнага спонсара канферэнцыі, якім быў Вэстмінстэрскі фонд (Вялікабрытанія), заўважыў, што ва ўмовах дэмакратыі нават амерыканскі прэзідэнт раптам становіцца звычайным чалавекам, якога можна прыцягнуць да юрыдычнай адказнасці. Таму для дэмакратыі не можа быць ніякай альтэрнатывы. Яўген Вапа выказаў свае меркаванні наконт дапамогі развіццю дэмакратычных працэсаў на Беласточчыне і ў Беларусі. Вінцук Вячорка, намеснік старшыні Беларускага народнага фронту прабаваў адказаць на пытанне: ці ў Беларусі ёсць дыктатура. Сітуацыю ў Беларусі параўнаў ён да Нямеччыны ў палове трыццатых гадоў. „Наша дыктатура, аднак, непаўторная, — гаварыў Вячорка. — Адрозніваецца яна тым ад Ірака, Кубы, Паўночнай Карэі, што накіраваная на знішчэнне краіны, якой кіруе". Станіслаў Шушкевіч заявіў, што беларуская эліта дзейнічае паводле чужых узораў, таму ўся яе дзейнасць безвыніковая. Людзі, якія арганізавалі подпісы пад „Хартыяй '97", паводле Шушкевіча, хацелі перш за ўсё звярнуць увагу на сябе. Георгій Таразевіч, былы пасол Беларусі ў Польшчы, паставіў прысутным былым дэпутатам закід, што гэта яны садзейнічалі стварэнню закону аб выбарах і рэферэндумах, якія дазволілі легітымнымі метадамі пабудаваць дыктатуру. Цяпер Лукашэнка назначае парламент, выканаўчую ўладу, суды, пракурораў. Расіі ніякая дэмакратыя ў Беларусі непатрэбная. Калі б нехта іншы кіраваў краінай, Масква мусіла б плаціць вялікія сумы за транзіт. Лукашэнка — паводле Таразевіча — не мае выбару. Расія — гарант ягонага панавання...

Генеральны консул РБ Мікалай Крэчка жадаў беларускай апазіцыі быць такой цывілізаванай як апазіцыя ў Польшчы. Артур Смулка рэплікаваў: „Якая ўлада, такая апазіцыя". (ям)

*"НІВА"*

# НАВАГРУДСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ ПАРК

## Беларускія вучоныя спадзяюцца, што ён будзе створаны

Той, хто хоць аднойчы пабываў на Наваградчыне, назаўсёды палюбіць гэты куток Беларусі. Застануцца ў душы маляўнічыя краявіды, грудкі, пакрытыя лесам, ціхія рачулкі і ручаі, сакаўныя лугі. Зачаруе і сам горад — адзін са старажытнейшых на Беларусі.

Вучоныя даўно звярнулі ўвагу на гэту мясціну. У пачатку дзевяностых гадоў батанікі з Інстытута эксперыментальнай батанікі Нацыянальнай акадэміі навук У. С. Адзярыха, Г. У. Вынаеў, А. М. Скуратовіч, А. В. Пучыла абследавалі абшары Наваградскага лягсаса. Нават іх здзівіла багацце тутэйшай флоры, прыгажосць ландшафтаў, каштоўнасць дубова-яловых лясоў. Вучоныя выявілі рэдкія расліны-«чырванакніжніцы», шмат відаў лекавых і гаспадарча карысных.

Яны прапанавалі стварыць ландшафтны заказнік на плошчы ў 9380 гектараў на тэрыторыі мясцовага лягсаса.

Лёгка сказаць — стварыць. На шляху задумы, як заўсёды, стаў моцны аргумент: гаспадарчыя патрэбы. Успомніце адысею з арганізацыяй запаведніка на тэрыторыі Налібоцкай пушчы, якая доўжыцца і па сённяшні дзень. Так напачатку было і на Навагрудчыне.

Навукоўцы абгрунтавалі стварэнне заказніка на тэрыторыі трох лясніцтваў — Усялюбскага, Лаўцоўскага і Наваградскага. У пачатку 1995 года было прынята рашэнне: адвесці пад заказнік толькі 1900 гектараў у Лаўцоўскім лясніцтве — масіў дубовых і яловых насаджэнняў на поўнач ад Навагрудка.

Даследаванні батанікаў на Навагрудчыне працягваліся. Штогод адкрываліся новыя віды «чырванакніжнікаў», лекавых траў, рэдкіх дрэў, апісваліся віды гаспадарча карысных раслін. Вось некаторыя прыклады.

Цячэ па Навагрудчыне невялікая рачулка Пліса, левы прыток Нёмана. Нешырокая, даўжынёй усяго дваццаць пяць кіламетраў. Але калі батанікі патрапілі на яе пойму на поўдзень ад вёскі Усялюб, то не маглі стрымаць захаплення. На забалочаным лузе знайшлі буйнейшую ў рэспубліцы папуляцыю вельмі рэдкай тлушчанкі звычайнай — больш за дзве тысячы раслін. Дарэчы, на Беларусі вядомы толькі тры мясціны, дзе расце «чырванакніжніца», і дзве з іх — на Навагрудскім узвышшы. Тлушчанка — загадкавая расліна-драпежніца, насякомаедны від. У культуру яе не ўводзілі, і невядома нават, ці выжыве яна на плантацыі. А вось што вельмі рэдкая, што можа назаўсёды знікнуць з флоры Беларусі, добра вядома.

На гэтым жа ўчастку расце і каменяломнік зярністы, таксама рэдкі від. І толькі тут, на Навагрудскім узвышшы, расліна захавалася. Батанікі сцвярджаюць, што і ёй пагражае небяспека, калі не прыняць тэрміновыя меры.

А побач вельмі цікавыя расліны — бядрынец вялікі, зоркаўка, таўсцянка. Але асабліва здзіўляе тое, што тут, у пойме невялікай рачулкі, выяўлена асака Хоста, новы від для Беларусі.

Унікальная пойма, «залатая поймачка» — завуць яе батанікі. Як важна ахаваць гэты невялікі лужок, усяго плошчай у тры гектары, што размешчаны на землях калгаса «Краіна Саветаў», не даць яму знікнуць пад нажом бульдозера ці каўшом экскаватара, пад капытамі жывёлы.

Праз Навагрудскі і Карэліцкі раёны бяжыць рэчка Неўда. Таксама, як і Пліса, невялікая, але адметная сваёй далінай. Тут на прырэчных лугах каля вёсак Валеўка і Залесаўцы знойдзена шмат герані цёмнай, вельмі рэдкага цэнтральнаеўрапейскага рэліктавага віду. Яе цёмна-бура-фіялетавыя пялёсткі вельмі вабныя, ды і сама расліна вышынёй да 70—80 сантыметраў прыцягвае ўвагу. Менавіта ж таму гэтак рэдка сустракаецца. Дарэчы, герань цёмная ахоўваецца толькі ў Белавежскай пушчы. А яшчэ каля Неўды расце і пальчатакарэннік майскі, таксама рэдкасць.



Фота Аляксандра ГУТОЎСКАГА

Можна назваць дзесяткі адметных мясцін на Навагрудскім узвышшы, дзе ёсць такія расліны, якімі б ганарыліся іншыя тэрыторыі. Нямала ў лясах і на лугах лекавых раслін. Валяр'ян, крываўнік, святаяннік дзіркаваты, дуброўка, ландыш, розныя віды шыпшыны, чыстацел; шмат расце харчовых відаў — парэчкі чорныя і чырвоныя, маліны, чарніцы, ажыны, журавіны, брусніцы, рабіна, суніцы, а таксама шмат розных кармавых, меданосных, дэкаратыўных.

Паводле даных батанікаў, у прыроднай флоры краю каля пяцісот відаў сасудзістых раслін, сярод іх рэдкіх і тых, якім пагражае знікненне, — 39, у Чырвоную кнігу ўключана 12 відаў, яшчэ сем патрабуюць прафілактычнай аховы.

Навагрудскае ўзвышша адметнае сваімі лясамі: сасна, елка, дуб, граб, ясень, клён, бяроза, асіна, лістоўніца, чорная вольха, ліпа, таполя, а таксама ляшчына, арэх маньчжурскі, ядловец. У мясцовым лягсасе насаджэннямі пакрыта вялікая плошча — больш за 73 тысячы гектараў.

Але адметнасць лясоў — ялова-грабавыя дубровы. Яшчэ ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя разам з будакашалёўскімі, тураўскімі, жорнаўскімі, белавежскімі яны адносіліся да ліку лепшых. У першую і другую сусветныя войны, у пасляваенны час насаджэнні былі ў значнай меры высечаны. Скарацілася і плошча дуброў, парушыўся іх якасны стан. Цяпер каля 70 працэнтаў складаюць маладнякі да сарака гадоў. Выжыць, стаць славутымі, як белавежскія ці тураўскія, яны змогуць толькі на ахоўваемай тэрыторыі.

Амаль у цэнтры Навагрудскага ўзвышша знаходзіцца унікальны Свіцязянскі азёрна-лясны прыродны комплекс, які не мае сабе роўных. Дваццаць сем тыпаў лесу, дубовых насаджэнняў больш за 22 працэнты. Маляўнічасць тутэйшым краявідам надае легендарнае возера Свіцязь. Ляжыць яно на вышыні 242 метраў над узроўнем мора, найбольшая глыбіня яго — пятнаццаць метраў. Возера колісь зачароўвала Адама Міцкевіча, ён прысвяціў яму некаторыя свае творы, чэрпаў тут натхненне. Знакамітасцю краю з'яўляецца возера Кромань. Яно ў нечым падобна да Свіцязі, амаль круглая водная роўнядзь у атачэнні меднастволых бароў.

Відавочна, што на ўсёй гэтай тэрыторыі варта ўводзіць статус аховы, што дасць магчымасць захаваць дубровы, якія засталіся, палепшыць якасны стан парушаных лясных экасістэм. Далейшая эксплуатацыя лясоў такога тыпу можа прывесці да іх поўнай дэградацыі, а ў выніку аднавіць паўнацэнныя дубовыя насаджэнні стане немагчыма.

Трэба падкрэсліць, што навагрудскія дубровы звязваюць Налібоцкую пушчу і сярэднянёманскія лясы, з'яўляюцца міграцыйным рэчышчам для жывёл і раслін у межах Навагрудскага, Дзятлаўскага і Мастоўскага раёнаў. Не захаваюцца дубовыя насаджэнні — могуць знікнуць і некаторыя віды каштоўных жывёл ці рэзка скароціцца іх колькасць.

Гэта толькі некаторыя звесткі пра багаты раслінны генафонд, біялагічную разнастайнасць тэрыторыі. Навагрудчына цікавая і як гістарычны і культурны куток. Тут музей Адама Міцкевіча, стаіць помнік вялікаму паэту, знакамітая Замкавая Гара, Курган Бессмяротнасці, помнікі архітэктуры XIII—XIX стагоддзяў, рэгулярна-пейзажны парк — помнік садова-паркавага мастацтва.

Што ні мясціна на Навагрудчыне, то нечым адметная. Вось, напрыклад, Любча, гарадскі пасёлак. Тут у сярэдняй школе выдатны краязнаўчы музей. А хто не ведае Мірскі замак — помнік абарончага дойлідства, пабудаваны на пачатку XVI стагоддзя; Мірскі парк. І гэты край варты вялікай увагі, яго трэба беражліва захоўваць. Тое, што засталося тут, з'яўляецца нацыянальным багаццем дзяржавы. На жаль, як сведчыць адзін з ініцыятараў стварэння нацыянальнага парка, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута эксперыментальнай батанікі Нацыянальнай акадэміі навук Уладзімір Сцяпанавіч Адзярыха, тыя два невялікія заказнікі, што ўжо ёсць, не ў стане захаваць усе прыродныя багацці. Патрэбен нацыянальны парк.

Зразумела, што стварэнне яго — справа няпростая. Усё трэба як належыць абдумаць і падлічыць. І крок за крокам ісці да мэты. Тое, што засталося на Навагрудчыне — прыродны комплекс, багатая гістарычная спадчына, — павінна жыць доўга. Гэта багацце сённяшніх і заўтрашніх пакаленняў.

**Алесь ДЗЯТЛАЎ,**
**пісьменнік**

## ЦІКАВЫЯ КНІГІ...

***Барыс Рагуля.* Беларускае студэнцтва на чужыне. Лёндан, Канада. 1996. 205 ст.**

У 1994 г. у выдавецтве Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва (БІНіМ) Нью Ёрк, выйшла цікавая і каштоўная манаграфія Яна Максімюка "Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне. (1945-1950)". Гэта была першая і пакуль што адзіная кніга прысьвечаная беларускай школе, што існавала па-за межамі Бацькаўшчыны. Пасьля знаёмства з гэтай грунтоўнай працай я мог толькі з сумам канстатаваць, што на жаль, больш даведацца пра асьветную дзейнасьць нашых землякоў, якія апынуліся на эміграцыі і пра іх далейшы лёс няма адкуль. І вось мне ў рукі трапілі добра ілюстраваныя мэмуары вядомага беларускага грамадзкага, вайсковага і навуковага дзеяча на эміграцыі Барыса Рагулі — былога студэнта Марбурскага і Лювэнскага ўнівэрсытэтаў "Беларускае студэнцтва на чужыне"... Кніга, якая напісана незалежна ад досьледаў Я. Максімюка, зьявілася як-бы яе лягічным працягам — гісторыяй беларускага студэнцтва ў канцы 40-х і пачатку 50-х гадоў. Гэта фактычна першыя і на дадзены момант адзіныя мэмуары ў сьвеце, прысьвечаныя беларускай вышэйшай адукацыі. Адразу трэба адзначыць, што нягледзячы на мэмуарны характар працы, г. зн. успаміны аднаго чалавека, шырокае выкарыстаньне ў ёй успамінаў большасьці колішніх студэнтаў гэтых інстытуцыяў (21 асобы) надало кнізе полімэмуарны характар, нават нейкае адценьне навуковасьці, што бязумоўна павялічыла яе каштоўнасьць і дазволіла значна зменшыць непазьбежны ў падобных творах суб'ектывізм. Калі паспрабаваць акрэсьліць асноўныя тэмы, якія асьвятляюць мэмуары, то прыйдзеш да высновы, наколькі яны рознастайныя. Тут і апісаньне матэрыяльных умоў паваеннага жыцьця беларускай эміграцыі, дзейнасьці беларускіх палітычных груповак, палітыкі аліянтаў да рэпатрыяцыі ў СССР, рэлігійнага жыцьця эмігрантаў, у прыватнасьці стан Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы. Аднак, натуральна, большая частка кнігі прысьвечана студэнцкаму жыцьцю беларусаў на чужыне і апавядае аб розных баках дзейнасьці беларускіх студэнцкіх арганізацыяў, прасочваецца лёс асобных студэнтаў ва ўнівэрсытэтах Марбургу (Нямеччына) і Лювэна (Бельгія), а прыведзеныя ўспаміны іншых былых студэнтаў дазваляюць азнаёміцца і з жыцьцём беларускіх студэнтаў у Парыжскім і Мадрыдзкім унівэрсытэтах.

Актыўная грамадзкая дзейнасьць маладога Барыса Рагулі (у 1945 г. яму было толькі 25 гадоў) спрыяла таму, што ён быў у курсе ўсіх дзеяньняў беларускай эміграцыі, а ягоная ўласная ініцыятыўнасьць дазволіла пазнаёміцца са шматлікімі вядомымі ды і проста шчырымі людзьмі ў Эўропе. Таму чытач кнігі даведаецца, у прыватнасьці, аб прычынах расколаў сярод тагачасных беларускіх эмігранцкіх палітыкаў, адну з якіх аўтар адзначыў гэтак: "А у нас было так: мяне ня выбралі старшынёй — я выходжу з арганізацыі і засноўваю новую партыю..." (47); пра сустрэчы Б. Рагулі з Папам Піям XII, пад час размовы з якім ён дамовіўся пра выдзяленьне беларускім студэнтам, у большасьці праваслаўным, адмысловае стыпэндыі ад Ватыкану (як ахвярам камунізму) за кошт падаткаў, якія плаціла Беларусь у ХУІ-ХУІІ ст., ды іншых, раней невядомых старонках з гісторыі беларускай эміграцыі. Чытаючы гэтую кнігу, знаёмячыся з навучальнай і шырокай культурна-асьветніцкай дзейнасьцю беларускіх студэнтаў, сапраўды пагодзішся са словамі аўтара: "мы хочам падрыхтаваць будучыню нашае Бацькаўшчыны і прыняць актыўны ўдзел у яе нацыянальным, сацыяльным ды рэлігійным адраджэньні" (126).

На мой погляд, найбольш хвалюючым, кульмінацыйным месцам у мэмуарах, зьяўляецца апісаньне 34-х угодкаў БНР і адкрыцьця Беларускага Студэнцкага Дому Лювэнскага каталіцкага ўнівэрсытэту (25-га сакавіка 1952 г.). Гэтыя ўрачыстасьці сталі як-бы падсумаваньнем тых вынікаў і таго плёну, што набылі беларускія студэнты

ў сваёй папярэдняй навучальнай і культурніцкай дзейнасьці і паказалі іхны высокі аўтарытэт, бязумоўна дзякуючы якому на сьвяткаваньні прыйшло ля 100 гасьцей, сярод якіх кардынал Тыссэрант, рэктар унівэрсытэту, прафэсары, біскупы, дырэктары ўстаноў, міністры, шматлікія рэпарцёры, якія пасьля падзеі яшчэ 2 дні пісалі пра яе.(125).

Чытаючы аб цяжкай, але вольнай і плённай дзейнасьці нешматлікай беларускай моладзі ў справе падтрымкі і разьвіцьця беларускага нацыянальнага духу на чужыне ў першыя паваенныя гады, што бязумоўна было працягам прагскіх традыцыяў 20-х гадоў, міжволі згадваеш сытуацыю на самой Беларусі таго часу, дзе, наадварот, згортвалася вывучэньне нават марксіцкай беларускай гісторыі, ішло паўсюднае вынішчэньне беларускай мовы, асабліва ў ВНУ. Усё гэта ведалі і нашыя эмігранты, але спадзяваліся, што Беларусь усё-ж у хуткім часе атрымае незалежнасьць і будуць патрэбныя іхныя рукі і веды. Аднак, як адзначыў Б. Рагуля, падзеі на Карэйскім паўвостраве пачатку 50-х г. пераканалі нас, што... трэба настройвацца на даўжэйшы пэрыяд эміграцыі... быць гатовымі да доўгага выгнаньня... да доўгага змаганьня... (138).

На маю думку, «Беларускае студэнцтва на чужыне», нягледзячы на пэўныя недахопы, уласьцівыя мэмуарам і прычыненыя маналікасьцю патрэбных архіваў, некаторую схематычнасьць, можа прэтэндаваць на тое, каб стаць тэарэтычнаю асноваю для экспазіцыі па гісторыі беларускай вышэйшай асьветы па-за межамі Беларусі ў XX ст. ў будучым Музэі Беларускай Адукацыі.

Такім чынам, мэмуары Барыса Рагулі дазваляюць на прыкладзе лёсу аднаго чалавека, як у люстры, убачыць агульны лёс актыўнай, нацыянальна сьвядомай паваеннай беларускай моладзі, якая апынулася па-за межамі Беларусі. Таму гэтую кнігу хацелася-б рэкамендаваць, у першую чаргу, сучасным беларускім школьнікам і студэнтам, ды нагадаць словы аўтара: "... мы не маем права забыцца, што нашая Бацькаўшчына яшчэ далёка ня тая, пра якую мы марылі, і яна патрабуе нашай духовай, культурнай ды матарыяльнай дапамогі". (143).

Віктар Астрога, Менск.
"Беларускі Гістарычны Агляд"
Том 4, сьнежаєь 1997.

## «Вялікія Дарогі»
### Уладзіміра Глыбіннага

Беларускі празаік і літаратуразнавец на эміграцыі Ўладзімір Глыбінны (1910-1950) раман "Вялікія Дарогі" пісаў у 40-я гады ў Нямеччыне. Пачатак яго друкаваўся ў 1952 годзе на старонках навукова-літаратурнага часопіса "Веда", які выходзіў у Нью-Ёрку. Асобныя разьдзелы былі апублікаваныя таксама ў газэце "Бацькаўшчына" ў студзені 1955 года і ў часопісе "Беларускі сьвет", пачынаючы з 43-га нумара. На жаль, асобнага выданьня аўтар так і не пабачыў, а зьявілася кніга "Вялікія дарогі" У. Глыбіннага напрыканцы мінулага году дзякуючы Беларускаму інстытуту навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку і Міколу Прускаму, якія выданьне фінансавалі і друкавалі.

Раман "Вялікія дарогі" — амаль аўтабіяграфічны. Разам з тым ён ахоплівае даваенны і ваенны час Беларусі, жыцьцё і дзейнасьць беларускай інтэлігенцыі, якая была рэпрэсіравана і якая заставалася пад нямецкай акупацыяй.

Галоўны герой твору — Кастусь, ён-жа сам аўтар "Вялікіх дарог". Усё ўбачанае і перажытае ім лягло ў аснову рамана. Дзесяткі знаёмых прозьвішчаў сустракаюцца на яго старонках. Адны — пад сапраўднымі прозьвішчамі, другія — пад псеўданімамі. Дарэчы, увесь раман прысьвечаны памяці Зьмітрака Астапенкі. У рамане Зьмітрок Астапенка — паэт Дземех Астаповіч.

Добрымі словамі аўтар успамінае і апісвае творчую і палітычную дзейнасьць Францішка Аляхновіча, Вацлава Іваноўскага, Уладзіслава Казлоўскага, Радаслава Астроўскага і іншых прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі. Адначасова У. Глыбінны асуджае зьверствы гітляроўцаў, іх зьдзекі над яўрэйскім і беларускім народамі.

С. Чыгрын
"ЛіМ", 20-га сакавіка 1998 г.

Маленькая заўвага: "Вялікія дарогі" зьявіліся дзякуючы Міколу Прускаму, які пакрыў 2/3 выдаткаў, і БІНіМ, які фінансаваў 1/3 частку выдаткаў.

## Аб назначэнні У.А.Сакалоўскага Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Індыя і прысваенні яму дыпламатычнага рангу Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла

Назначыць Сакалоўскага Уладзіміра Аркадзьевіча Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Індыя і прысвоіць яму дыпламатычны ранг Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнка.**

* * *

Сакалоўскі У.А. нарадзіўся ў 1946 годзе ў п. Кіраўск Магілёўскай вобласці, беларус.

Адукацыя вышэйшая. Працоўную дзейнасць пачаў у 1964 годзе настаўнікам фізкультуры і працы Грыбавецкай сярэдняй школы Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці.

З 1965-1972 г.г. — студэнт Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў.

З верасня 1972 г. па лістапад 1972 г. — выкладчык англійскай мовы БДУ, г.Мінск.

З 1972-1973г.г. — служба ў радах Савецкай Арміі.

З 1973-1975 г.г. працаваў у бюро маладзежнага турызму Мінскага абкама ЛКСМБ.

З 1975-1977 г.г. — працаваў перакладчыкам групы савецкіх спецыялістаў у Сірыйскай Арабскай Рэспубліцы.

З 1977-1984 г.г. — трэці сакратар, другі сакратар пратакольна-консульскага аддзела МЗС БССР.

З 1984-1992 г.г. — першы сакратар Пастаяннага прадстаўніцтва БССР пры ААН, г.Нью-Йорк.

З 1992-1996 г.г. — намеснік начальніка, начальнік дагаворна-прававога ўпраўлення МЗС Рэспублікі Беларусь.

З лістапада 1996 года Сакалоўскі У.А. працаваў на пасадзе саветніка-пасланніка Пасольства Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча.

***Друкуючы сёння дзённікавыя запісы Уладзіміра Ліпскага, "ЛіМ" шчыра віншуе дзэтфондаўцаў з юбілеем. Хай, сябры, ваша вернае служэнне дзецям Беларусі стане добрым прыкладам для ўсіх дарослых.***

Уладзімір ЛІПСКІ

# Бацькі і дзеці

ЛіМ

СТАРОНКІ З ДЗЁННІКА

●

Знаёмы дзядзька Сцёпа, міліцыянер — вартавы нашага скрыжавання, расшчодрыўся на ўспаміны:

— Падбягае неяк да мяне пацанчык і пытае: "Ці не бачылі вы маю маму?" — "А якая яна?" — "Ну, ішла адна, без мяне, з сумкай..."

Міліцыянер рагатаў, і мне стала весела. Сынок шукаў маму па вернай і адзінай прыкмеце: яна ішла без яго.

Мама для дзіцяці, як крынічная вада, сонечны промнік для кветкі, як майскі золак для салаўя, як акрайчык хлеба галоднаму...

Хрысце ўсемагутны і справядлівы, молімся за тваю светлую маці Марыю, але чаму нашы зямныя Марылі кідаюць на сметніках сваіх дзетак, чаму яны церпяць здзек, калі іх пазбаўляюць права маці?

Пачуйце, маці-адрачэнцы, вершык Кацідзетдомаўкі:

***Каб мама згадала, што я яе дочка,***<br>
***Каб мама забылася на бутэльку сваю,***<br>
***Я б падарыла ёй тры цвяточкі,***<br>
***Якія п'юць толькі ваду...***

●

Зайздрошчу: немцы правялі ў Гановеры дабрачынны шоу-канцэрт і за дзве гадзіны сабралі тры мільёны марак.

Там, у Германіі, хто не хоча служыць у арміі, ідуць даглядаць ляжачых дзяцей. Выносяць іх на вуліцу, возяць у калясках...

Наша ява, на жаль, крыху не такая.

На аўкцыён выстаўляем дзяцей. Праводзім дні "адкрытых" дзвярэй у дзетдамах. Газеты друкуюць фоткі сіротаў. Знайдзі мяне, мама!

Безнадзейна чакаюць дзеці спагадлівых людзей. Інтэрнатныя ўстановы могуць штогод аддаваць на ўсынаўленне звыш пяці тысяч сіротаў. У сем'і трапляюць толькі пяцьсот.

Расце колькасць злачынных сем'яў, адкуль збягаюць дзеці, у якіх бацькоў пазбаўляюць правоў на дзяцей. Кожны год "бусел прыносіць" нам каля дзесяці тысяч пазашлюбных дзяцей. А яшчэ дваццаць тысяч нашых нашчадкаў з-за разводаў застаюцца ў няпоўных сем'ях...

Што тут сказаць?

Давайма вучыцца шкадаваць дзяцей, як гэта робіцца ў людскім свеце.

Давайма помніць: калі дрэўца не даглядаць, яно вырасце крывым ці здзічэе...

●

Наколка на нагах у зэка: "Яны стаміліся, мама, хадзіць пад канвоем".

Хто цябе, чалавек, пагнаў пад канвой: мама, сябры, прагнасць, "лёгкі хлеб"?

Хай твая наколка, мучанік, прыпыніць тых, хто бяздумна лезе пад канвой.

●

Прачытаў пра звярынае злачынства двух маладзёнаў і глыбока параніўся сам. Што ні раблю, а перад вачыма дзікунскі "баявік" жыцця.

На дачу, пад Радашковічамі, уварваліся два азвярэлыя байбусы. Нажамі скрамсалі бабулю і ўнука. Па паўсотні ранаў кожнай ахвяры. Хлопчыку напаследак перарэзалі горла...

І што пасля?

Там жа, на дачы, памылі рукі, забралі грошы, фотаапарат і паехалі гуляць на Нарач.

О, сінявокая Нарач! Каго ты толькі не бачыла на сваіх берагах, каго не лашчыла ў сваіх чароўных хвалях. Прытуліла і вырадкаў чалавечых...

Але не доўга балявалі злачынцы.

Іх цёпленькіх і павязалі ў амурных абдымках з каханкамі.

Думаю-перадумваю, колькі ахвяраў у гэтым злачынстве? Дзве недарэчныя смерці бязвінных. Згубленыя жыцці двух нечалавекаў. Глыбокія раны ў родзічаў, сяброў, знаёмых і незнаёмых, хто далучыўся да гэтай біяды.

А дзеля чаго ўсё гэта?

Няўжо жыццёвыя ўрокі бездухоўныя?

Няўжо божыя запаветы губляюць мудрасць?

Ды не, шукайма трагедыю на арбіце бацькоў і дзяцей. І прыслухаемся да нямецкага філосафа Р. Штайнера: "Перш за ўсё чалавека трэба рыхтаваць да таго, каб ён далучыўся да людзей".

●

— Я стамілася жыць, — уздыхнула і змоўкла жанчына.

Што ведаў пра яе?

Гамяльчанка. Прывезла на "чарнобыльскае" абследаванне траіх унучак — Жэню, Насцю, Лену.

Перада мной сядзела бабуля, хваравітая і зламаная жыццём. Людміла Якаўлеўна Пшанічнікава, так назвалася пры знаёмстве, адчуўшы маю спагаду да яе, адкрыла душу:

— Мне самой шчытавідку ўдалілі. Пасля аперацыі, адчуваю, пастарэла гадоў на дваццаць. Бацька мой, франтавы лётчык, вярнуўся дамоў без абедзвюх рук. Усё жыццё даглядала яго. Во дакумент: "В боях за Советскую Родину..." (паказвае даведку). А паміраў, дык не было за што пахаваць...

Людміла Якаўлеўна даверыла прачытаць яшчэ адну паперу. Сама склала паэму пра бацьку-інваліда...

Чытаю няхітрыя вершыкі, напісаныя збалелым сэрцам. У іх — горыч, крыўда, адчай. Забылася радзіма пра абаронцу свайго, зажыва пахавала ў хаце, быццам і не было вайны...

Пшанічнікава, з хлебным прозвішчам, скардзіцца на бясхлебіцу, беднасць. І зноў прызнаецца:

— Стамілася жыць...

Перадаю праўнукам франтавога лётчыка, чарнобыльцам Жэні, Насці, Лене калядныя падарункі ад Дзіцячага фонду. Выходжу на вуліцу дыхнуць калючага, зімовага водару.

●

У падземным пераходзе на плошчы Перамогі сустракаю хлопчыка. Ды ён сам вытыркнуўся перада мною. Выкінуў руку ў мой бок, неяк ігрыва прамямліў:

— Хачу есці...

— Пойдзем са мной, — прапанаваў галоднаму незнаёмцу.

На яго твар ускочыў сполах. Схаваў рукі ў кішэню. Стаіць, як нашкодлівы каток.

— Пойдзем у Дзіцячы фонд. Накормім цябе. Пазнаёмімся... — яшчэ раз даверліва прапанаваў хлопчыку.

І раптам ён ірвануў ад мяне, вопрамеццю кінуўся на выхад з тунеля.

Забаяўся знаёмства. Адмовіўся ад абеду.

Значыць, збіраў грошы не для яды. Выправіў бацька-п'яніца ці маці-лайдачка? Прымусіў старшы "сябар"? А можа, гэта яго бізнес?..

Дзетак змалку пачынае кранаць вірус грошай. Просяць. Бяруць. Зарабляюць. Кра-

дуць. Грошы затуманьваюць бясклапотнае, радаснае дзяцінства.

Як давесці да дзіцячай душы, што грошы ў іхнім жыцці яшчэ будуць, а дзяцінства — ніколі?

Як навучыць дарослых, што дзецям трэба даць "даспець" у дзяцінстве?

●

Надпіс пад свечкай: "Служым іншым — растрачваем сябе".

Такая самаахвярнасць павінна ўзвышаць асобу, а не рабіць яе халуём.

Лічы, спаліў дзень, калі нікому нічога не зрабіў добрага. Так можа растапіцца ўся свечка жыцця...

●

"Зазорныя" дзеці.

Такім кляймом у эпоху Пятра І вызначалі немаўлятак, ад якіх адмаўляліся маці.

Ганебныя. Нялюбыя. Кінутыя.

Іх умярцвялі бацькі. Яны гінулі з голаду. А калі няшчасныя выжывалі, то пазбаўляліся ўсіх правоў на волю і грамадзянства. Кара за іх бязвіннасць.

А маці-грэшніцу, калі яна рабілася забойцай дзіцяці, каралі смерцю, ссылалі ў Сібір.

Што сёння?

"Зазорнага" падкідыша знайшлі ў пад'ездзе дома N 6 па вуліцы Цыялкоўскага ў Магілёве.

Нічыйнага хлопчыка падабралі каля плота дома дзіцяці ў Мінску.

Галодных і схуднелых Машу, Максіма, Марыну, Насцю падкінула маці-зязюля ў прыёмны пакой Аршанскай бальніцы.

У нежылым доме вёскі Межная Слабада Клецкага раёна нехта забыўся закручанае ў дарожку дзіцё мужчынскага полу.

На Магілёўшчыне маці-п'янь закапала народжанае дзіця ў картоннай каробцы з-пад "гуманітаркі".

З раддома збеглі дзве парадзіхі. Каля немаўлятак пакінулі запіскі: "Самой жраць нечава...", "Аддайце таму, хто яго зрабіў..."

Мы "затавараны" кінутымі дзецьмі. Іх — дзесяткі тысяч. І люляе "зазорнікаў" бедная дзяржава. А бацькі, якія асірацілі дзяцей, прадаўжаюць вольнае, загульнае жыццё. Няўжо так ніколі не знойдзем управу для гэтай мярзоты?!

Устрашаў жа Пётр Вялікі непуцёвых бацькоў: сек галовы, вешаў, пасылаў туды, дзе адмярзала ўсялякае жаданне грашыць.

А да невінаватых грэшнікаў праявіў міласэрнасць. Каб іх не кідалі абы-дзе, выдаў свой знакаміты указ ад 4 лістапада 1715 года:

"...И для того объявить Указ, чтобы таких младенцев в непристойные места не отметывали, но приносили б к вышеозначенным гошпиталям и клали тайно в окно, через какое закрытие, дабы приносящих лица было не видно..."

Зразумелі?

Калі маці ў адчаі безвыходнасці, то ёй не трэба кідаць дзіцё "в непристойных местах", яго нельга забіваць, бо за гэта будзе пакарана, яго трэба прынесці і тайна здаць у "гошпиталь".

Такія прыёмнікі па Указу цара былі створаны ў Маскве і ў іншых гарадах пры цэрквах. "Приставленным" да тых прыёмнікаў жанчынам плацілі ў год 3 рублі і давалі хлеба па "полуосмине" ў месяц...

Усё рабіў цар, каб маці не ўмярцвялі нежаданых дзяцей. разумна рабіў!

Вопыт даўніны перанялі сучасныя венгры.

У цэнтры Будапешта ёсць спецыяльнае памяшканне для "зазорных" дзяцей. У краіне ўведзена праграма "Інкубатар" па выратаванню маці і дзіцяці, якія трапілі ў крытычны мір жыцця.

Дай, Божа, і нам калі-небудзь прасвятлець!

●

Эб'юз — сужыцельства дарослых і дзяцей.

Для высокіх цывілізацый свету — гэта пагроза нацыянальнай бяспекі краіны.

А ў нас?

У лепшым выпадку, калі ява набудзе галоснасць, — суд, краты, пазбаўленне правоў бацькі, маці.

Пераварваем, як вараную бульбу, жудаснае падзенне чалавечай годнасці: бацька згвалціў дачку-малалетку, брат — сястру, зяць — цешчу, свёкар — нявестку...

Дзяўчынкі-падлеткі з Віцебска ездзілі ў Маскву "гандляваць" сабой. І прыладкаваліся ў незнаёмым горадзе да заробкаў. І даляры займелі. Але іх "працоўную" дзейнасць перапыніла міліцыя...

У Чэрвеньскім раёне дзядзька "ўзнагародзіў" сіфілісам васьмігадовую пляменніцу...

У Мінску маці прывяла да свайго сужыцеля малую дачку...

Гэтыя злачынствы называем інтэлігентна — "займацца любоўю".

А нашы далёкія прашчуры неад'емна звязвалі пачуццё любові з Богам. Самае высокае чалавечае пачуццё абагаўлялі ў лепшых творах мастацтва. У лацінскай паэме "Усеначная Венеры", якая напісана ў трэцім стагоддзі, чытаем найвялікшую мудрасць, як запавет нам, сённяшнім грэшнікам:

"Няхай заўтра пакахае той, хто ніколі не кахаў, а той, хто кахаў, няхай заўтра пакахае".

Хай, Божа, будзе так!

●

Чарнобыльскае "слабоумие" — новы дыягназ, які распачалі выстаўляць вучоныя і медыкі Украіны.

Бяда чарнобыльская — шматтварная і здзеклівая. Як бы нас не супакойвалі перад ёй, яна з кожным годам усё больш кусачая.

Медыкі пачалі выпісваць дакумент — "Інвалід Чарнобыля". Не адпачываюць скальпелі хірургаў на шчытавідках. Не пустуюць ложкі ў дзіцячых анкалагічным і гематалагічным цэнтрах...

І вось новы дыягназ: радыяцыя расхіствае мозг, разбурае нейроны, атрафіруе наш розум, адбірае інтэлект, цікаўнасць да жыцця...

Божа міласэрны, чаму, за што пакутуюць нашы дзеці?

Божа праведны, уразумі дарослых, дай волю і мудрасць тым, хто мае ўладу, што дзеці — наш нацыянальны скарб. Дзецям патрэбна дапамога сёння. Адчувальная дапамога! Заўтра яна не спатрэбіцца нікому.

●

Што пасееш, тое і пажнеш.

Суды навадняюцца нязвыклымі справамі. Бацька здзекуецца з сына. Маці б'е дачку. Настаўнік — вучня. Доктар гвалціць малых пацыентаў...

Сеем жорсткасць, злосць, агіду, агрэсію ў душах дзяцей...

Дзетдомаўка: "Аднойчы я ўкрала цыбуліну і з'ела без хлеба. Айчым прывязаў мяне да крэсла, біў і крычаў: "Аддай, а то распару жывот!.."

У Барысаўскім доме дзіцяці з'явіўся новы "кліент" — дзевяцімесячны Віталік. Маці кінула яго на чыгуначным вакзале з высокай тэмпературай, а сама паехала гуляць да сяброўкі...

З міліцэйскай даведкі: "Сужыцель маці тушыў "бычкі" аб спіну Жэнькі. Яго карміл камбікормам з вадой..."

І пажынаем з пасеянага...

На Віцебшчыне пяцігадовы хладнакроўна забіў нажом васьмігадовага. І прысыкнуў на бабулю: "Маўчы, старая, бо і цябе прырэжу..."

У Магілёве трое старшакласнікаў у масках уляцелі ў кватэру, за нішто збілі і парэзалі старых людзей...

У Светлагорскім раёне п'яны падлетак згвалціў шасцігадовую дзяўчынку-інваліда...

У Гродне чацвёра старшакласнікаў замучылі, задушылі дашкольніка...

Крыўдна: у малекулу зазірнулі, а ў душу дзіцяці — не ўмеем, не жадаем і не хочам.

А сённяшняя агрэсіўная пацанва заўтра будзе ўпраўляць намі, няўжо не страшна, людзі?

*«БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ»*
чакае Вашае ахвяры
на
ВЫДАВЕЦКІ ФОНД!!!

*Уладзімір КУЛАЖАНКА, доктар эканамічных навук, прафесар*

*Народная Воля*



# Не страляйце з гарматаў па вераб'ях

Жорсткія меры па абароне ўнутранага рынку прыводзяць да небывалага ўціску "чаўнакоў". Вынікі гэтага супрацьстаяння для дзяржавы мізэрныя, але ж прапагандысцкі шум відавочны: маўляў, глядзіце людзі, хто вінаваты ў дэфіцыце прадуктаў харчавання. І таму дзяржава наводзіць парадак на рынку.

У падначаленых прэзідэнту і ўраду сродках масавай інфармацыі з'явіліся рапарты транспартнай міліцыі па спыненні вывазу прадуктаў з Беларусі. Справа дайшла да жорсткіх карных мер — узбуджана аж 120 крымінальных спраў па фактах так званай спекуляцыі.

Выклікае здзіўленне паведамленне, у якім сцвярджаецца, што ў Гомельскім рэгіёне зніклі сыр, тварог, смятана і ёгурт. Зніклі таму, што, маўляў, "чаўнакі" вывозяць гэтыя прадукты ў расійскі горад Навазыбкаў. Можна ўявіць, які ўзровень забяспечанасці названымі прадуктамі харчавання Гомеля і рэгіёна ў цэлым, калі "чаўнакі" могуць падарваць харчовую стабільнасць, вывозячы прадукты ў невялікі расійскі горад Навазыбкаў.

Шчыраванне транспартнай міліцыі Гомеля ці Оршы яшчэ можна неяк зразумець. У рэгіёнах не хапае прадуктаў і ўводзіцца размеркаванне. Але як можна ацаніць, што экспарт, няхай і неарганізаваны, як кажуць, народны, пераследуецца ў раёнах, пакуль што забяспечаных прадуктамі харчавання, дзе, як лічыць адміністрацыя, нармальны ўзровень сельскагаспадарчай вытворчасці. Так, днямі сіламі Брэсцкай транспартнай міліцыі ў самадзейных экспарцёраў адабрана 149 кілаграмаў сыру, 165 — масла, 73 літры смятаны і, смех сказаць, 370 літраў малака. Агулам на 132 мільёны рублёў ці ўсяго 3000 долараў. На 9 мільёнаў рублёў (200 долараў) спынены вываз прадуктаў са Смаргоні. Па інфармацыі міліцыі, прадукты дастаўляліся ў стольную Маскву і горад Бранск. Забралі ў людзей прадукты, якія яны, між іншым, не ўкралі, а купілі. Але колькі падстаў для шуму і трaскатні аб клопатах пра інтарэсы народа.

Паведамляючы пра вываз прадуктаў, органы міліцыі любяць падкрэсліваць, што такі і такі парушальнік нідзе не працуе. Дык таму ён і займаецца дробным гандлем, што нідзе не працуе. І гэта яго адзіная крыніца здабычы сродкаў для жыцця. Дык што тут злачыннага?

Але самае галоўнае, што міліцыя ганарыцца тым, што прадукты вяртаюцца на прылаўкі. Заўважым, што прадукты павінны не вяртацца на прылаўкі, а пастаўляцца. Вось у гэтым якраз і хаваецца прычына дэфіцыту харчавання. Ды і наогул, ці ёсць чым ганарыцца праваахоўнікам, калі транспартная міліцыя ўсёй краіны ў гэтым годзе спыніла вываз тавару толькі на суму звыш 400 мільёнаў рублёў. Каб было больш відавочным, пераведзем гэты спынены вываз у долары. Атрымаем 9 тысяч 520 долараў. Выснова: уся гэтая кампанія пераследу "чаўнакоў" для насычэння ўнутранага рынку ёсць ні што іншае як страляніна з гарматаў па вераб'ях.

Галоўнае ў дэфіцыце харчовых прадуктаў зусім не ў іх вывазе. Міліцыянеры не вырашаць харчовую праблему. Вырашаць толькі вытворцы. Нельга думаць, што Беларусь сарвала пастаўкі харчавання ў Мурманскую вобласць, у прыватнасці, Паўночнаму флоту Расіі, з прычыны вывазу прадуктаў харчавання "чаўнакамі". Такая бязглуздзіца не можа прыйсці ў галаву ніводнаму фантазёру. Альбо хіба "чаўнакі" вінаватыя, што на сялянскіх рынках цана аднаго кілаграма свініны сала даўно перавалiла за 100 тысяч рублёў?

Адказ на пытанне, чым, замест непатрэбнай валтузні, павінен займацца ўрад, дала газета "Звязда", якая 26 сакавіка надрукавала заметку "Рагатыя рэкардсмены з вёскі Лумны". Гэта ў Камянецкім раёне. Распавядаецца, як калгаснікі Ігнат і Надзея Алексяюкі, трымаючы дзве каровы, прадалі летась дзяржаве 8 тон малака. Звыш гэтага пакідалі сабе штодзённа 7 літраў, каб смятаны сабраць і тварог мець. Прадавалі малако безкаровым суседзям. За прададзеную прадукцыю ад дзяржавы атрымалі 26 мільёнаў рублёў. У газеце змешчаны нават здымак сям'і Алексяюк каля высокаўдойнай каровы. Гаспадыня шчасліва ўсміхаецца. І як не ўсміхацца, калі ад кожнай каровы летась надаілі болей як 5 тон малака! Усе ведаюць, колькі малака дае калгасная карова — у цэлым па рэспубліцы ў два разы меней.

Алексяюкі зусім не фермеры, а простыя калгаснікі. А што было б, калі б урад аднёсся з увагай да фермераў, аднёсся так, як апякае ён сёння безгаспадарчасць калгасаў і саўгасаў? Можна сказаць, што праблема "чаўнакоў" не існавала б. А быў бы толькі адзін клопат: куды і як збыць вырабляемую прадукцыю. Вось і ўся філасофія з "чаўнакамі".

# ... У іх — імкненне да Свабоды І наша вера ў лепшы лёс

Нейкі палітык сказаў, што Беларусь атрымала сваю незалежнасць "на блюдечке с голубой каемочкой". Ён памыліўся.

Лепшыя сыны і дочкі Радзімы на працягу стагоддзяў змагаліся за свабоду і незалежнасць Беларусі.

Дзяржаўнасць абвешчана. Але барацьба за нацыянальнае адраджэнне і правы чалавека на Беларусі працягваецца. Святкаванне ўгодкаў абвяшчэння беларускай дзяржаўнасці аб'ядноўвае беларусаў усяго свету. Вось якія паэтычныя радкі нарадзіліся ў маёй душы у Дзень волі, г. зн. 25 сакавіка.

*Дзень Незалежнасці сягоння,*
*І, як мінуўшчыны працяг,*
*Ляціць нястрымная "Пагоня",*
*Лунае беларускі сцяг.*

*У іх — гісторыя народа.*
*Ён праз стагоддзі іх пранёс.*
*У іх — імкненне да Свабоды*
*І наша вера ў лепшы лёс.*

**Эдуард ЯРОМАЎ.**
Мінск.

цалкам лукашэнкаўскі рэжым, нават з эканамічнага гледзішча, не можа сабе дазволіць. Таму татальнай "зачысткі" не будзе.

**— Партыя БНФ заявіла аб тым, што не будзе ўдзельнічаць у наступных прэзідэнцкіх выбарах, бо ў цяперашняй сітуацыі яны не могуць быць дэмакратычнымі. Якая сёння сітуацыя — зразумела ўсім, але ці не будзе гэта паўтарэннем памылковай, з пункту гледжання многіх, тактыкі апазіцыі БНФ у парламенце 12-га склікання, калі фракцыя ўхілялася ад галасавання па шэрагу пытанняў? Каму ад гэтага стала лягчэй — невядома.**

— Я, прызнацца, не памятаю, каб было многа ўхіленняў ад галасавання. Апазіцыя Беларускага народнага фронту дзякуючы сваёй дысцыплінаванасці і ідэйнай матывацыі мела магчымасць у пэўным сэнсе навязаць сваю волю і сваю думку аморфнаму Вярхоўнаму Савету, правесці мноства стратэгічна важных для нашай незалежнасці рашэнняў. Што да цяперашняй сітуацыі, то я катэгарычна нязгодны з тым, быццам бы варта ўдзельнічаць у нейкіх выбарах. Як ні дзіўна, Лукашэнка можа і пагадзіцца на прэзідэнцкую кампанію 99-га года, бо вынік яе абсалютна прадказальны. Справа ў тым, што дэмакратыя — гэта не ёсць механізм, ужыты ў нейкі канкрэтны дзень. Выходзячы з разліку на наіўнага заходняга назіральніка, у сам дзень выбараў сапраўды можа быць вытрымана "дэмакратычная" працэдура. Дэмакратыя, аднак, — гэта не працэдура. Дэмакратыя — гэта стан грамадства, гэта кантэкст. Нельга лічыць дэмакратычнымі выбары, калі, прынамсі, за год да іх у краіне не будзе ўсталявана дэмакратыя, не будзе вернутая свабодная інфармацыйная прастора, не будуць вызваленыя ўсе палітычныя зняволеныя. Толькі пасля такой санацыі — так, як гэта было ў паслягітлераўскай Нямеччыне, — можна гаварыць пра выбары. Усё іншае будзе далейшай легітымізацыяй рэжыму. Не забывайцеся, што Лукашэнка трымае ў руках усе выбарчыя камісіі, у тым ліку дзіўныя структуры пад назвай "абласныя выбарчыя штабы", куды нават назіральніка нельга прысласць. Фальсіфікацыі на пераважнай бальшыні тэрыторыі нашай краіны, зразумела, дадуць свой плён, інфармацыйная хваля паклёпаў не дазволіць незалежніцкім сілам перамагчы нават у Мінску, дзе яны, бясспрэчна, мелі б высокія шанцы пры ўмове рэальнай дэмакратыі. Таму Фронт супраць выбарчых гульняў пры Лукашэнку.

**— Народны фронт увогуле лічыць інстытут прэзідэнцтва непатрэбным для Беларусі. Чаму? Мы чымсьці адрозніваемся ад іншых еўрапейскіх нацый?**

— Інстытут прэзідэнцтва ва ўмовах слабасці нашай грамадзянскай супольнасці ёсць інструмент маніпуляцый з боку сілаў антынезалежніцкіх і антыдэмакратычных. Таму нашы дэпутаты ў Вярхоўным Савеце 12 склікання галасавалі супраць увядзення гэтага інстытута ў Канстытуцыю. Жыццё паказала, што яны цалкам мелі рацыю. Была пасаджана марыянетка. І плён цяпер мы пажынаем... У бальшыні еўрапейскіх краінаў інстытут прэзідэнцтва ёсць, але ён напоўнены розным зместам. У Нямеччыне прэзідэнт — фігура рэпрэзэнтацыйная, палітычнае прадстаўніцтва грамадства фармуецца праз парламент — і ўжо парламенцкая бальшыня фармуе выканаўчую структуру. Ёсць даволі моцны кантроль за гэтымі інстытутамі, ёсць парламенцкае ўраўнаважанне пярэстай структуры грамадзянскай супольнасці — і няма небяспекі ўтварэння дыктатарскай "вертыкалі".

**— Як практычна можа быць ліквідавана пасада прэзідэнта ў нашай краіне?**

— Пасля сыходу альбо законнага адхілення Лукашэнкі ад улады Вярхоўны Савет 13-га склікання мог бы прыняць адпаведныя змены ў Канстытуцыю і выбарчы закон, пасля чаго распісаць новыя выбары — і, адпаведна, самараспусціцца.

**— Спадар Вячорка, 23 сакавіка мінулага года я слухаў Вас на мітынгу, прысвечаным гадавіне абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, Ваша прамова мела вельмі рэзкую антырасійскую скіраванасць. На Вашу думку, для дэмакратычнай Беларусі Расія так і застаецца знешнім ворагам нумар адзін?**

— Яна застаецца галоўнай небяспекай для нашай незалежнасці. Для расійскай палітычнай улады — хай яна хоць тройчы называе сябе дэмакратычнай — па-ранейшаму прыярытэтнымі з'яўляюцца не інтарэсы дэмакратызацыі расійскага грамадства, не далейшая федэралізацыя краіны, не ўлік патрэб рэгіёнаў увогуле, не шляхі інтэнсіўнага развіцця, а захаванне экстэнсіўнага кантролю за так званымі "сферамі інтарэсаў". Кожны дзень прыносіць новыя публікацыі: выданні расійскага генштаба, публікацыі такіх "демократов", як Сяргей Глазьеў. У іх не толькі Беларусь, але Украіна, Закаўказзе, Балтыйскія дзяржавы прама называюцца сферай натуральных жыццёвых інтарэсаў Расіі. Феномен Лукашэнкі быў бы абсалютна немагчымы без Расіі, якая непасрэдна падтрымлівае яго як свайго стаўленіка, як сродак рэалізацыі сваіх геапалітычных інтарэсаў. Спробы кантакту з расійскімі палітычнымі сіламі і фігурамі, якія называюць сябе дэмакратычнымі, не далі і не дадуць плёну. Мы не дачакаліся ад іх усведамлення ў якасці абавязковых, універсальных такіх прынцыпаў, як незалежнасць Беларусі, існаванне нацыянальна-культурнай адметнасці беларускага народа. Можна гаварыць толькі пра разуменне з боку пэўных людзей, якія маральна сфарміраваліся ў эпоху дысідэнцтва — гэта Глеб Якунін, Алена Бонэр...

**— Валерыя Навадворская...**

— ... Валерыя Навадворская — і некаторыя іншыя. Але, на вялікі жаль, яны не адыгрываюць рэальнай ролі ў цяперашнім расійскім палітычным істэблішменце. Мы бачым, што новы расійскі бізнес, які надрос на дражджах нафтагазавых і іншых сыравінных расійскіх рэсурсаў, ківае пальцам Лукашэнку, толькі пакуль гэта выгадна; як толькі палагоджаныя нейкія інтарэсы, звязаныя са скупкай беларускіх транспартных і нафтаперапрацоўчых рэсурсаў, — спадары Беразоўскі, Гусінскі і астатнія цалкам талеруюць Лукашэнку. Гэта мы добра бачым па зменёнай танальнасці падкантрольных ім расійскіх тэлеканалаў.

**— Вы нядаўна былі ў краінах Цэнтральнай Еўропы. Ці многім вядомы там беларускі дэмакратычны рух, ці многія гатовы яго падтрымаць?**

— Нас там ведаюць. І ёсць два ўзроўні разумення. Адзін узровень — гэта разуменне таго, што для ўсіх цэнтральна- і ўсходнееўрапейскіх краін, у тым ліку і нашай, паняцце "незалежнасць" і паняцці "дэмакратыя", "рынак", "заможнае жыццё" — неадлучныя. Як незалежнікаў нас найлепей разумеюць тыя, хто, як і мы, вынес на сваіх плячах цяжар барацьбы з імперскім і камуністычным прыгнётам. Гэта Украіна, Літва, Польшча, Чэхія. Што да заходніх краін, то ўся дзікасць, якая творыцца ў нас, выклікае і ў іх справядлівае абурэнне. Якраз салідарнасць з намі ў барацьбе за дэмакратычныя вартасці, у імкненні пераступіць Еўропу ў суцэльную прастору цывілізаванай дэмакратыі мы знаходзім на Захадзе. У тамтэйшых палітыкаў пастаянна ўзнікае пытанне выбару: што рабіць з рэжымамі тыпу хусейнаўскага, фідэлеўскага, лукашэнкаўскага? Ёсць два падыходы. Ці ізаляваць рэжым і чакаць, што грамадства само знойдзе ў сабе сілы дэмакратызацыі сваёй краіны, ці кантактаваць з рэжымам, размякчаючы яго, "прывучаючы" яго чыноўнікаў да дэмакратычных поглядаў... Па-мойму, у выпадку з Беларуссю і ў Стакгольме, і ў Лондане, і ў Бруселі, і ў Боне прыходзяць да высновы, што змякчаць ізаляцыю лукашэнкаўскага рэжыму нельга. Трэба кантактаваць з беларускім грамадствам. Наша грамадства і цяпер сведчыць пра сваю жыццяздольнасць — праз палітычныя партыі і грамадскія арганізацыі, незалежны бізнес. І ад нас, тых, хто не прымае рэжым Лукашэнкі, залежыць, ці здольныя мы засведчыць, што мы і ёсць сапраўдная Беларусь. І ў гэтым сэнсе палітычная і маральная падтрымка з боку нашых еўрапейскіх суседзяў — бліжэйшых, далейшых — па-мойму, забяспечана.

**Гутарыў Аляксандр АДЛІВАНЧЫК.**

## *Нам пішуць... Нас пытаюць...*

Дарагі Мікола!

Надоечы сустрэўся з В. Л. і пастанавілі падтрымаць "Беларускі Дайджэст". Газэта вельмі цікавая і наскрозь беларуская. Спадзяёмся, што ў добрым здароўі будзеш яе выдаваць доўгія гады. Пры гэтым залучаюцца ахвяры на выдавецкі фонд газэты.

З пашанай, М. Л.

P.S. Пры нагодзе паведамі, колькі паасобнікаў высылаеш у Беларусь.

*Моцна і шчыра дзякуем за ліст і вельмі гойную ахвяру на выдавецкі фонд газэты. Дзякуючы такім людзям як Вы, газэта стала выходзіць у сьвет. На Беларусь пасылаем каля 20 экз. — столькі-ж у Польшчу.*

Вельмі Паважаны Сп. Прускі!

Дзякую за газэту. Пасылаю Вам ахвяру на выдавецкі фонд "Беларускага Дайджэсту".

Жадаю Вам добрага здароўя і сілы ў Вашай цэннай працы на карысьць нашай Бацькаўшчыны. Шчырыя прывітаньні Вам і Вашай сям'і. З пашанай, О. Г.

*Шчыра дзякуем за ліст і ахвяру на выдавецкі фонд газэты. Мы таксама жадаем Вам добрага здароўя і ўсяго найлепшага.*

Дарагі Мікола!

Дзякую за кожны нумар газэты, якая сапраўды цікавая зьместам. У № 3 за 1998 г., у зацемцы пра сьмерць мітр. Васіля Варшаўскага мне не спадабалася думка, ня ведаю кім выказаная. Ён, сьв. пам. Васіль, быў якраз шчырым беларусам і добра размаўляў пабеларуску. Называць яго русафілам і вялікадзяржаўнікам — несправядліва. Тым больш, што пра памёрлых негатыўна, дрэнна гаварыць — непрыгожа. Калі ён быў кепскім беларускім мітрапалітам, то што маем сказаць аб новым, яго пераемніку — Саве, які і гаварыць пабеларуску ня ўмее? Моладзь на Беласточчыне, ў савёй бальшыні сьвядомая свайго паходжаньня, можа зрабіць вельмі многа для беларускае справы.

Тое, што ў Багаслужбах там не карыстаюцца беларускай мовай, гэта не віна сьвятароў ці япіскапаў, а вернікаў, якія ў многіх выпадках ня хочуць мяняць багаслужэбнай мовы ў царкве. Я там быў, пытаўся і сьвятароў і людзей на гэту тэму, і ўсе ня бачылі патрэбы ўводзіць зьмены. Было многа сказана і напісана на гэтую тэму, як у Польшчы так і ў замежжы. Не зашкодзіла-б разабрацца са сваімі беларускімі мітрапалітамі тут у Амэрыцы, як яны сябе паводзяць і які прыклад даюць вернікам... Залучаю ахвяру на выдавецкі фонд газэты.

З пашанай, П. С.

*Дзякуем за ліст і ахвяру на выдавецкі фонд газэты. Справа беларускага праваслаўя ў Польшчы сапраўды вельмі заблытана. Аднак, на нашу думку, сьвятары-беларусы маглі-б выгалашаць казаньні ў беларускай мове, або нават выконваць беларускі рэлігійны гімн "Магутны Божа" пасьля сьвяточных Багаслужбаў. Ці гэта пярэчыла-б Праваслаўю? Абсалютна, не. Але дзеля гэтага трэба мець хоць крыху добрае волі і сумленнае веры...*

Паважаны Сп. Прускі!

Дзякую за прысланы Вялікодны нумар "Беларускага Дайджэсту". Увесь матэрыял па душы. Дай Бог Вам найлепшага здароўя. Вялікі дзякуй таксама і ахвярадаўцу перадапошняга нумару. Жадаем Вам і сям'і Вясёлых Вялікодных Сьвятаў. Залучаю падтрымку на "Б. Д.".

З глыбокай пашанай, М. С.

*Дзякуем за ахвяру і ліст. Са свайго боку жадаем Вам моцнага здароўя і ўсяго найлепшага ў жыцьці.*

# ЯВАР І КАЛІНА

*Словы Я. КУПАЛЫ Музыка Ю. СЕМЯНЯКІ*





**Песняй вясны лебядзінаю,**
**Скінуўшы зімнія чары,**
**Шэпчуцца явар з калінаю**
**У сумнай даліне над ярам.**

**Лісцікі зеленяй хваляцца**
**Небу панятлівай мовай:**
**Росамі мыюцца раніцай,**
**Песцяцца сонцам паўднёвым.**

**Чуецца музыка дзіўная**
**У повесцях сонных імшараў...**
**Цешыцца явар з калінаю,**
**Скінуўшы зімнія чары.**

## Беларускі рубель, — непрадказальны

На рынках СНД курс беларускага рубля вагаецца ад 54 да 70 тысяч за даляра. А вось паўлітра водкі "Два буслы" каштуе 60.100 рублёў, "Пшанічнай" 62.000, берасьцейскай "Беларусь" 62.2000 рублёў. Цэны растуць, а Лукашэнка бяз мыла лезе ў расейскую "газаправодную трубу"...

## 25-га Сакавіка ў Кліўлендзе

Сакавіковыя ўрачыстасьці ў нядзелю 29 сакавіка 1998 г. пачаліся малебнем пасьля літургіі ў царкве Божае Маці Жыровіцкае (БАПЦ). а. Зьміцер Беленькі ў прынагоднай казані падкрэсьліў вялікае значэньне Акту 25-га Сакавіка для беларускага народу, для яго свабоды і незалежнасьці.

Урачыстую і велічную акадэмію прысьвечаную 25-му Сакавіку на селішчы "Полацак", пасьля багатага і смачнага сьвяточнага абеду ды малітвы а. М. Страпка, адчыніў Сп. Янка Ханенка, старшыня Аддзелу БАЗА ў Кліўлендзе. Ён-жа адчытаў прынагодныя прывітаньні ад розных палітычных ды грамадзкіх арганізацыяў, а Спадар Пол Васілеўскі, прадстаўнік пры ўрадзе губэрнатара, прачытаў Праклямацыю з нагоды 25-га Сакавіка ад губэрнатара штату Огайё, Сп. Джорджа Вайновіча.

Угодкавы даклад прачытаў Мікола Прускі, рэд. газэты "Беларускі Дайджэст".

Заключнай часткай Сакавіковае праграмы было выступленьне меснага хору "Васількі". Як заўсёды хор сваім шырокім рэпартуарам выклікаў у прысутных яшчэ большы сьвяточны настрой.

Праграма адзначэньня 80-х угодкаў 25-га Сакавіка ў Кліўлендзе закончылася адсьпяваньнем беларускага гімну, — "Мы выйдзем шчыльнымі радамі..."

## і... Сьвяткаваньне ў Чыкага

У нядзелю, 29 сакавіка, Беларуская Амэрыканская Нацыянальная Рада ў Чыкага арганізавала ўрачыстае сьвяткаваньне 80-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. Урачыстасьць адбылася ў Беларускай праваслаўнай царкве імя Сьв. Юр'я.

Сьвяткаваньне пачалося а 10-й гадзіне раніцы ўрачыстай літургіяй, якую вёў а. Дзьмітры Бажко. Пасьля сьвяточнага малебну, грамада перайшла ў царкоўную залю, дзе была разгорнута спэцыяльная выстава беларускіх кнігаў і перыядычных выданьняў, як эміграцыйных, так і з Бацькаўшчыны, а таксама выстава беларускага народнага адзеньня. Старшыня ўрачыстасьці Сп. Мікола Латушкін павіншаваў усіх са сьвятам 25-га Сакавіка і адчытаў віншаваньні, дасланыя шматлікімі




Выстава падчас сьвяткаваньня 25-га Сакавіка ў Чыкаго.

дзяржаўнымі і грамадзкімі арганізацыямі ды асобамі, у тым ліку і спэцыяльны сьвяточны ліст ад губэрнатара штату Ільлiной, Спадара Джыма Эдгара.

З рэфэратам "Значэньне сьвята 25 Сакавіка і праблемы лігітымнасьці Рады БНР і сёньняшняга рэжыму ў Беларусі" выступіў журналіст Ванкарэм Нікіфаровіч. Потым адбыўся сьвяточны канцэрт. Дзіцячы гурток пад кіраўніцтвам матушкі Ірыны Бажко выканаў некалькі прыгожых беларускіх танцаў. Гучалі беларускія народныя песьні і мэлёдыі ў выкананьні салістаў фальклёрна-музычнага ансамблю "Забава". Вядомы чыкагскі паэта, кампазытар і выканаўца Міхась Кляйнер-Парыч прасьпяваў на сваю музыку вершы і рамансы на словы Ўладзімера Дубоўкі, Натальлі Арсеньневай, Алеся Салаўя, Генадзя Бураўкіна, Сяргея Панізьніка ды іншых паэтаў. Сьвяткаваньне закончылася адсьпяваньнем беларускага гімну, "Мы выйдзем шчыльнымі радамі..."

## БНР — наша будучыня ў XXI стагодзьдзі

«ПАГОНЯ»

У Менску адбыліся масавае шэсце і мітынг апазіцыі, прымеркаваныя да 80-годдзя абвяшчэння БНР.

Шматтысячная калона дэманстрантаў пад гукі духавога аркестра ў 12.10 выйшла з плошчы Якуба Коласа і рушыла па праспекце Ф.Скарыны. Наперадзе калоны былі разгарнуты транспаранты: «БНР — наша будучыня ў XXI стагоддзі», «Не — дыктатуры!», вялікі групавы партрэт членаў першага ўрада БНР. Узначальвалі шэсце лідэры Беларускага Народнага Фронту Лявон Баршчэўскі, Сяргей Папкоў, Юрый Беленькі, а таксама прадстаўнікі іншых партый і рухаў: Мікалай Статкевіч — лідэр БСДП (НГ), Станіслаў Багданкевіч — старшыня АГП і іншыя. Як і прадугледжвалася, калона заняла тратуар і першую паласу праезджай часткі праспекта Скарыны. Дэманстранты скандзіравалі лозунгі: «Жыве Беларусь!», «Беларусь — у НАТО» і іншыя.

Мітынг каля тэатра оперы і балета на плошчы Парыжскай камуны пачаўся ў 13.20. Па розных ацэнках, на ім прысутнічала ад 6 да 10 тысяч чалавек, у тым ліку прадстаўнікі многіх рэгіёнаў Беларусі. Мітынг адкрыў і вёў намеснік старшыні БНФ Юрый Беленькі. Ён спачатку зачытаў віншаванне Зянона Пазняка, у якім лідэр Фронту заклікаў беларусаў да салідарнасці як адзінай зброі супраць дыктатуры і расійскай акупацыі.

Вядомы гісторык і публіцыст Анатоль Сідарэвіч расказаў пра гісторыю абвяшчэння БНР. Сярод выступоўцаў быў таксама лідэр Аб'яднанай грамадзянскай партыі Станіслаў Багданкевіч, які заклікаў апазіцыйныя сілы забыць рознагалоссі і аб'яднацца, каб абараніць суверэнітэт Беларусі. Ён і некаторыя іншыя прамоўцы пракаменціравалі апошнія рашэнні прэзідэнта Беларусі ў галіне эканомікі і фінансаў, назваўшы іх некампетэнтнымі і вядучымі краіну да далейшага заняпаду. «Толькі прэзідэнт і яго карумпаванае асяроддзе вінаватыя ў крызісе беларускай фінансавай сістэмы», — заявіў член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Іван Нікітчанка. На мітынгу былі зачытаны віншаванні розных дзеячаў беларускай эміграцыі, у тым ліку і цяперашняга кіраўніка Рады БНР Івонкі Сурвілы.




Ён правевеца!

З вялікай прамовай выступіў Лявон Баршчэўскі. «Беларуская нацыянальная ідэя і яе носьбіты, — сказаў Баршчэўскі, — гэта костка ў горле усіх інтэгратараў, якія чакаюць зручнага моманту, каб праглынуць Беларусь. Мы, Беларускі народны фронт, пасля 1995 года не лічым сябе апазіцыяй... Сёння БНФ — гэта рух за нацыянальнае вызваленне, рух за інтэграцыю ў Еўропу». Л.Баршчэўскі нагадаў, што 22 сакавіка — трагічны дзень у гісторыі Беларусі. У гэты дзень у 1864 годзе быў пакараны смерцю Кастусь Каліноўскі, а ў 1943 годзе — спалена Хатынь. Удзельнікі мітынгу ўшанавалі хвілінай маўчання памяць усіх ахвяраў барацьбы за незалежнасць краіны. Ад імя «Маладога фронту» з тэмпераментнай і яркай прамовай выступіў яго лідэр Павел Севярынец, які заявіў, што ў XXI стагоддзе Беларусь увойдзе свабоднай і дэмакратычнай.

Сярод выступоўцаў былі таксама спікер Вярхоўнага Савета 12-га склікання Станіслаў Шушкевіч, старшыня жаночага руху «За адраджэнне Айчыны» Таццяна Ваніна і іншыя. На мітынгу была прынята рэзалюцыя, у якой гаварылася пра неабходнасць адстаўкі сённяшняга рэжыму, вяртання краіны да парламенцкай формы праўлення. У дакуменце таксама змяшчаецца патрабаванне да беларускіх уладаў аб выкананні правоў чалавека і свабоды слова, аб неадкладным вызваленні ўсіх палітзняволеных. У 14.30 мітынг быў закончаны. Лявон Баршчэўскі заклікаў усіх арганізавана разыходзіцца, аднак група моладзі ў колькасці некалькіх дзесяткаў чалавек з разгорнутымі сцягамі і скандзіруючы розныя лозунгі прайшла ў бок праспекта Ф.Скарыны, дзе была спынена супрацоўнікамі міліцыі. У кварталах, прылягаючых да будынка адміністрацыі прэзідэнта, былі дзесяткі аўтамабіляў і аўтобусаў з сотнямі экіпіраваных міліцыянераў, амонаўцаў, спецназаўцаў. Частка маладых людзей (па папярэдніх дадзеных, больш як дваццаць чалавек) затрымана.

У суботу і нядзелю мітынгі, прысвечаныя 80-годдзю абвяшчэння БНР, адбыліся і ў іншых гарадах рэспублікі.

**Генадзь Барбарыч**

## і... у Торонто, Канада

24-га сакавіка 1998 г. наш бел-чырвона-белы сьцяг вісеў на ратушам гораду Торонто, а

29-га сакавіка ў царкве Сьв. Еўфрасіні Полацкай была адслужана літургія і малебень прысьвечаныя 25-му Сакавіку. Малебень закончыўся адсьпяваньнем "Многае лета" усім змагаром за волю і незалежнасьць Бацькаўшчыны.

Акадэмія прысьвечаная 80-ым угодкам 25-га Сакавіка адбылася ў царкоўнай залі. Усім уваходзячым у залю прышпіляліся беларускія сьцяжкі.

Сьвяточную акадэмію адчыніў старшыня царкоўнага камітэту, Спадар Рымша. Пасьля адсьпяваньня гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі...", Спадар Кухарчык прачытаў вельмі зьмястоўны рэфэрат, а таксама зачытаў надасланыя прывітаньні. Хор пад кіраўніцтвам а. Паўла прасьпяваў некалькі беларускіх песьняў. Пасьля смачнага абеду, прыгатаванага сястрыцтвам, усе прысутныя разышліся з прыпаднятым урачыстым настроем.

Элеонора Пітушка.

Аб іншых сьвяткаваньнях 25-га Сакавіка ў Амэрыцы і Канадзе чытайце ў газэце "Беларус".





## ТОЕ — СЁЕ...

Дэпутаты Госдумы зацьвердзілі маладога Сяргея Кірыенку на пасаду прэм'ер-міністра Расейскае Фэдэрацыі. Прэзыдэнт Расеі Барыс Ельцын яшчэ раз умела абрабіў камуністычную большасьць Думы і адсунуў правадыра камуністаў на калгасную парыфэрыю. Цяпер ідзе падбор міністраў у новы урад Расеі.

* * *

"На заранку дэмакратыі, калі Беларусь зьмяніла чырвоны флаг на бел-чырвона-белы сьцяг, першым у залю паседжаньняў Вярхоўнага Савету унёс абноўлены сьцяг беларускі лётчык-касманаўт Уладзімір Кавалёнак. Асыставалі яму дэпутаты Сяргей Антончык і Аляксандар Лукашэнка... Прайшло ня так многа часу, і Беларусь ізноў памяняла цьвет сьцягу"... — так піша менская газэта "Імя". А мы ад свайго боку дадамо, што "нацыяналіст" Лукашэнка стаўшы прэзыдэнтам Беларусі, усімі сіламі і спосабамі гоніць беларускі народ назад у сталінскае ярмо. Але намаганьні гэтыя мужыцка-прасьцяцкія, такія як і сам прэзыдэнт.

* * *

25-га красавіка мінулага месяца ў Менску адбылася масавая маніфэстацыя —"Чарнобыльскі шлях", у чарговую гадавіну чарнобыльскае катастрофы. У маніфэстацыі ўзяло ўдзел ад 8-мі да 10-ці тысяч у большасьці маладых беларусаў.

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018